

Абрад яднае➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Св. Юры з Гарадка➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 49 (3265) Год LXIII | Беласток, 9 снежня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Вучні з роднай мовай

XIV Мастацкія сустрэчы школьнікаў 25 лістапада ўдала прайшлі ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. У ходзе мерапрыемства запрэзентаваліся гайнаўскія дашкольнікі, вучні падставовых школ, гімназій і белліцэя. Паказалі яны свае мастацкія ўмеласці перад гайнавянамі, якія шчыльна запоўнілі кіназалу белмузея, а нават і калідор. Падчас сёлетніх сустрэч наймалодшыя ўдзельнікі запрэзентавалі народны абрад «Вячоркі» і прадстаўленне пра восень у мінулым. У ходзе мерапрыемства можна было пачуць многа беларускіх песень, паглядзець цікавыя інсцэніроўкі і народныя беларускія танцы.

Мерапрыемства вёў настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Ян Карчэўскі — галоўны арганізатар Мастацкіх сустрэч школьнікаў. Жартоўна заказваў ён паасобныя нумары і расказваў пра калектывы. Сярод публікі былі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, дырэктар Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы Бажэна Маркевіч, намесніца дырэктара Гайнаўскага белліцэя Ніна Лукасік і дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк. Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы разам з Аб'яднаннем «Наша школа», якое дзейнічае пры Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы, з'яўляюцца суарганізатарамі Мастацкіх сустрэч школьнікаў.

— Тут выступаюць гайнаўскія дашкольнікі і вучні пачатковых школ, белліцэя і белгімназіі ды вучні школы ў Белавежы. Дзеткі і моладзь глядзяць выступленні сяброў і таксама знаёмяцца з цікавымі прадстаўленнямі з беларускім словам. Я цешуся, калі бачу так многа публікі, бо гэта заахвочвае да арганізавання Мастацкіх сустрэч школьнікаў, якія патрэбныя для выступоўцаў і публікі, — гаварыў **Ян Карчэўскі**.

Вядучы запрасіў перад публіку ўсіх апекуноў школьных самадзейнікаў і разам з дырэктарам Гайнаўскага белмузея Тамашам Ціханюком падзякавалі настаўнікам за падрыхтоўку дзетак і моладзі да выступаў. Дырэктар Ціханюк уручыў апекунам падарункі. Першымі займальна выступілі дзеткі Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы. З цікавым прадстаўленнем пра восень запрэзентавалася малодшая група дашкольнікаў з беларускага калектыву «Калебка», якіх падрыхтавалі настаўніцы Эва Шыманская і Вольга Вілюк. Старэйшая група дашкольнікаў з калектыву «Калебка» па-акцёрску паказала доўгі і багаты абрад «Вячоркі», які падрыхтавалі з дапамогай настаўніц Мірaславы Нiканчук, Алы Супрун і Вольгі Вілюк. Дашкольнікі ўмела і адважна выказваліся на беларускай літаратурнай мове і зацікавілі публіку, выступаючы ў касцюмах стылізаваных на колішнюю вопратку. Дзеткі прыгожа спявалі, умела гаварылі вершыкі, прымаўкі і танцавалі, паказваючы, як у мінулым адпачывалі сяляне. Дашкольнікі рыхтаваліся на занятках беларускай мовы і на рэпетыцыях калектыву «Калебка».

— У нас шэсць поўных гадзін у тыдзень вучобы беларускай літаратурнай мове і культуры. Апрача гэтага ў нас вядуцца дадатковыя заняткі ў рамках калектыву «Калебка». На занятках па беларускай мове вучым дзетак гаварыць вершыкі і спяваць песні. Цяпер мы месяц часу інтэнсіўна рыхтавалі абрад «Вячоркі», які прэзентуем ужо трэці раз. Абрад доўгі, бо хацелі мы паказаць розныя формы адпачынку нашых продкаў, пра якія даведваліся ад старэйшых вясковых жанчын. Бацькі запісалі ў калектыў «Калебка» многа дзетак. Падзялілі мы іх на старэйшую і малодшую групы. Малодшыя дзеткі запрэзентавалі прадстаўленне пра восень, у якім паказваюць, што гаспадыні рабілі ў мінулым з фруктаў і агародніны. Малодшыя дзеткі ўжо ўмеюць называць па-беларуску паасобныя фрукты і агародніну, — распавядалі **Міраслава Нiканчук** і **Ала Супрун**, а настаўніца **Эва Шыманская** дабавіла, што малодшыя дзеткі вельмі ахвотна рыхтаваліся да выступаў, якія былі для іх асаблівым здарэннем.

Першакласнікі Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы займальна запрэзентавалі слоўна-музычны мантаж, падрыхтаваны настаўніцай беларускай мовы Людмілай Грыгарук.

— Здольныя вучні першых класаў «Б», «Ц» і «Д» за тры месяцы развучылі чатыры беларускія песні, вершыкі і саставілі слоўна-музычны мантаж, — сказала настаўніца **Людміла Грыгарук**.

Настаўніца беларускай мовы Беата Кендысь падрыхтавала з вучнямі пятага класа Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы танец «Полька беларуская».

— Мы супольна з вучнямі абмяркоўвалі, як станцаваць «Польку беларускую», каб зацікавіць публіку. Для гэтага мы супольна рыхтавалі сцэнічнае афармленне да танца. Сустрэчы школьнікаў — добрая нагода да гэтага, каб запрэзентаваць нашы песні, танцы, вершыкі, інсцэніроўкі. Цяпер дзеткі нашай школы вучацца беларускім народным танцам пад кірункам прафесійнага інструктара па танцах Вольгі Вілюк, а мы падрыхтавалі сваю інтэрпрэтацыю танца, — сказала настаўніца **Беата Кендысь**.

— Я першы раз тут выступаю і мне падабаецца гэтая імпрэза, — заявіла **Тацяна Байко**.

Па-акцёрску цікавую інтэрпрэтацыю «Васількова танца» запрэзентавалі вучні чацвёртага класа Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы, апранутыя ў адмысловыя касцюмы. Чацвёртакласніц падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Марыя Крук.

— Я заказвала і купляла паасобныя часткі касцюмаў, у якіх танцавалі нашы вучаніцы. Сінія колеры ў вопратцы гэта сімвал васількоў, а залацістыя — збожжа. Вучаніцам цікава было запрэзентавацца перад бацькамі. З вучнямі восьмага класа мы рыхтавалі інсцэніроўку, але не можам паказаць яе з-за прастуды часткі выканаўцаў, — сказала настаўніца **Марыя Крук**.



Калектыў «Знічка»

— Нам вельмі падабаюцца нашы касцюмы. Мы стараліся цікава запрэзентаваць паасобныя партыі нашага танца. Я люблю яшчэ спяваць. Мая бабуля Анна Хірко спявала ў калектыве «Тыневічанкі» ў Тыневічах, а я буду спяваць у школьным калектыве, — заявіла вучаніца Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы Алівія Хірко.

Зося Філіпюк з гэтай жа школы захапіла сабраных выкананнем беларускіх песень. Яна ўдзельніца Студыі песні Гайнаўскага дома культуры, дзе навучылася спяваць у калектыве і сола, але на гэты раз падрыхтавала яе настаўніца Марыя Крук, якая ў школе апякуецца вакальным калектывам.

Публіка горача апладзіравала дзвюм групам беларускага калектыву «Сунічкі» Беа Школьна-дашкольнага комплексу ў Белавежы, якім на акардэоне акампаніяваў Марк Зубрыцкі. Калектывам апякуецца настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская.



Калектыў «Калебка» паказаў абрад «Вячоркі»

— Ужо ўзнікла трэцяя, наймалодшая група калектыву «Сунічкі», якая неўзабаве пачне спяваць перад публікай, — сказала настаўніца **Анджаліна Масальская**.

У канцы Мастацкіх сустрэч школьнікаў запрэзентаваліся вучні Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Выступалі яны ў беларускім калектыве «Знічка», танцавальным калектыве і ў дуэце. Калі было сказана, што са «Знічкай» не займаецца ўжо Бажэна Вінцонак, а толькі Паўліна Скепка, выклікала гэта ў многіх здзіўленне.

— Я стала займацца «Знічкай» з верасня. Пані Бажэна Вінцонак не працуе ўжо ў нашай школе і я вучу мастацкім заняткам. Адны вучні адышлі, а іншыя далучыліся да калектыву і зараз у «Знічцы» спявае 15 асоб. Сёння выканаем эстрадныя песні з ранейшага рэпертуару «Знічкі» і новаразвучаныя. Пачалі мы спяваць без музычнага акампанементу і так заспяваем сёння, — гаварыла яшчэ перад публікай музычны кіраўнік «Знічкі» **Паўліна Скепка**.

— Пані Паўліна стварае добрую атмасферу ў калектыве, мы яе любім і ўдала ў нас праходзяць рэпетыцыі. Я думаю, што так як добра спявалася нам з паняй Бажэнай, таксама добра будзе нам спявацца з паняй Паўлінай, — заявіла **Гося Галёнка** са «Знічкі».

Да некаторых песень акампанемент на баяне саставіў белліцэіст Яцак Дружба, а па-за раней падрыхтаванай праграмай выступіў Давід Ціханюк і ўмела зайграў перад публікай на акардэоне. Белліцэісты Вераніка Пташынская і Андрэй Бабулевіч, які таксама састаўляў акампанемент на гітары, займальна заспявалі ў дуэце патрыятычны беларускі твор «Ліцвіны». Белліцэйскі танцавальны калектыў, апрануты ў прыгожыя касцюмы, стройна запрэзентаваў некалькі беларускіх народных танцаў. Яго інструктар Вольга Вілюк удакладніла, што з калектыву адышло некалькі выпускнікоў школы, якіх замясцілі новыя здольныя танцоры. Сустрэчы школьнікаў закончыліся выступамі белліцэістаў і белгімназістаў на высокім мастацкім узроўні і ва ўзнёслым настроі.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**





# Навіны з саміту G20

Не, я асабіста на саміт дваццаці самых моцных эканомік планеты не патрапіў. Ні эканоміка маёй краіны, ні мая асабістая не далі мне аніводнага шанцу асвяціць гэтую падзею адтуль. Але пару-тройку кантрасных навін удалося ўбачыць і праз акіян.

Дык вось, у сталіцы Аргенціны Буэнас-Айрэсе прайшоў доўгачаканы двухдзённы саміт лідараў краін G20. Там жа, за 33 км ад Буэнас-Айрэса адбыўся землятрус. Але галоўнай інтрыгай першага дня стала тое, што прэзідэнт Амерыкі Дональд Трамп не паціснуў руку кіраўніку Расійскай Федэрацыі Уладзіміру Пуціну. Гэта ў адрозненні ад землятрусу заўважылі абсалютна ўсе і адзначылі, што рукапаціскання не адбылося не толькі таму, што амерыканскага і расійскага лідараў паставілі так, што яны і не маглі дацягнуцца адзін да другога, а гэта іх наўмысна паставілі так таму, што яны і не збіраліся ручкацца.

Затое Уладзімір Пуцін з энтузіязмам паціснуў далонь спадчыннага прынца Саудаўскай Аравіі Мухамеда бін Салмана, якога нібыта таксама абмінуў прэзідэнт ЗША. Не вельмі рукапаціскальны на гэтым саміце аказаўся прынц для амерыканца з-за таго, што высокапастаўленага госця з Саудаўскай Аравіі падазраюць ці то ў прамым, ці то ва ўскосным дачыненні да забойства свайго суайчынніка журналіста.

Што тычыцца няміласці да расійскага лідара, то прычына канфлікту ляжыць далёка ад журналістыкі. З журналістамі ў Расіі ўжо ўсё нармальна. З гэтым навялі поўны парадак, прыціснуўшы да ногця і журналістаў, і журналістыку. Зараз у свеце не могуць уцяміць, навошта расійскія ваенныя караблі напалі на караблі Украіны?! І хіба што не ўцямяць.

Там жа, на саміце, стала вядома, што прадстаўніца самай магутнай эканомікі Еўропы нямецкі канцлер Ангела Меркель прыляцела ў сталіцу Аргенціны рэйсавым самалётам. Але не з-за прыроднай сціпласці, а таму, што яе нямецкі самалёт зламаўся. Гучыць як анекдот, але факт застаецца фактам. Прычым фактам смешным. Бо хоць яе самалёт і не называўся „Фольксваген", але ж ён усё адно нямецкі. Як гэта ён мог зламацца?! Паверыць немажліва! Да таго як Меркель стала кіраўніком краіны, такога канфузу ў Нямеччыне і ўявіць было немажліва! Ды многа чаго немажліва было ўявіць у Нямеччыне да Меркель.

Дарэчы Меркель, як і яе французскі калега Макрон у адрозненні ад амерыканскага лідара, ці ў піку таму, ці ў здраду яму, уцякаць ад рукапацісканняў з расійскім і саудаўскім кіраўнікамі не сталі. Мала таго, Меркель добра пагаварыла з Пуціным. Можа папрасілася, каб той падкінуў яе па дарозе назад на сваім самалёце да Берліна, а можа каб пасля закančэння канцлерскага тэрміну ўладкаваў на працу ў Газпрам, як некаторых нямецкіх палітыкаў мінулага, хто яе ведае. Афіцыйна заявілі, што гаворка ішла пра расійска-ўкраінскі канфлікт у Керчанскім праліве. Неафіцыйна кажуць, што пра газаправод.

Можна было б пасмяяцца з гэтай сітуацыі даўжэй, каб не прыйшла і сумная навіна, што памёр сорак першы прэзідэнт Злучаных Штатаў Джордж Буш-старэйшы. Той самы кіраўнік Амерыкі, які абвясціў усяму свету пра прызнанне суверэнітэту Беларусі пасля развалу СССР. Той самы, які прадоўжыў палітыку слаўнага Рональда Рэйгана, якая і прывяла да развалу імперыі зла СССР, і як вынік прынесла сувернітэт многім паняволеным народам.

Гэта была лёсаносная эпоха, праслаўленая намаганнямі Рональда Рэйгана з Амерыкі, і Маргарэт Тэтчэр з Еўропы. Гэтым вялікім дзеячам хіба і ў страшным сне не магло прысніцца, што неўзабаве ім на замену прыйдзе другі амерыкана-еўрапейскі тандэм з Барака Абамы і Ангелы Меркель, пры якім адродзяцца не толькі былыя савецкія імперскія амбіцыі, але і ўзброяцца і асмялеюць дыктатарскія рэжымы, расквітнее тэрор, зменяцца межы ў Еўропе... І ўрэшце паламаецца нямецкі самалёт, які мусіў даставіць на саміт самых буйных эканомік свету лідара эканомікі Еўропы.

Ну а ў Беларусі гэтымі днямі стала вядома, што падымецца кошт на цыгарэты і харчаванне ў дзіцячых садочках і школах, і што праіндэксавалі тарыфы на камуналку, і што запрацуе база „дармаедаў", дзе можна будзе даведацца дармаед ты ці ўсё ж не, і што для размяшчэння каментарыя на інтэрнэт-рэсурсах трэба будзе ідэнтыфікавацца...

Праўда, на саміце G20 гэтага не абмяркоўвалі.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Не пытайся, каму звоніць звон

Гэта не жартачкі, ані журналісцкая качка, не фельетоннае камедыянцтва, ані рэха шызафрэнічных фантазій... Гэта факт, які пацвярджаецца ўсімі сейсмалагічнымі цэнтрамі ў свеце! 11 лістапада (якраз у Польшчы мы перажывалі нацыянальны ўздым, завершаны ў Варшаве шматтысячным шэсцем, дзе разам ішлі неафашысты, нацыяналісты, левыя, камуністы, шараговыя грамадзяне і прэзідэнт Дзяржавы са світай), уздрыганулася планета Зямля, як звон. Прынамсі, так параўналі сейсмолагі. Гаворка ідзе пра глабальны землятрус, зарэгістраваны спецыялізаванымі датчыкамі па ўсім свеце. Не сумняваюся, што ў гэты дзень не бяздзейнічалі датчыкі таксама ў Польшчы. Што тычыцца пільнасці тых, якія ўстаноўлены далей на ўсход, да прыкладу, на тэрыторыі Расіі, я нічога не ведаю. Але яны, верагодна, будуць актываваны толькі тады, калі прэзідэнт Пуцін паставіць глабальнае паведамленне пра неабходнасць дружбы і братэрства паміж народамі Расіі і астатняга свету. Вядома, на расійскіх умовах. Сапраўды, гэта быў бы цуд! Сутрасенне касмічнага маштабу!.. Што тычыцца землятрусу ад 11 лістапада, на думку навукоўцаў, быў ён кур'ёзны. Калі ёсць землятрус, першая паяўляецца хваля высокай частоты. Затым ідзе другасная хваля, і толькі пасля ўзнікаюць павярхоўныя хвалі. На гэты раз аднак сейсмографы запісалі толькі трэцюю хвалю. І што дзіўна, гэта не была хваля, як звычайна, аднастайная, «стукаючая», але прыняла «музычную», гарманічную частату. Можна сказаць, што нябесную, калі б гэта не быў, аднак, землятрус.

Стэфан, мой сусед, які мае пажыццёвую амбіцыю, каб завяршыць самастойны курс перад уключаным днём і ноччу тэлевізарам, штораз больш свабодна гаворыць на любую тэму — дык пра той землятрус мае сваю тэорыю. Апакаліпсіс! Мабыць, нічога арыгінальнага не адкрывае Стэфан. Толькі што калі на 100 грамадзян прыходзіцца 78 такіх амбіцыйных тэлевізійных курсантаў, то гэтае пытанне становіцца сур'ёзным. Таму што, калі 78 чалавек са 100 дасягае той жа высновы, нават калі яна была заснавана на ілжывай перадумове, яна становіцца ўсё ж воляй-няволяй — абавязваючай тэорыяй. Пра такіх, як Стэфан, кажуць, што яны праглянулі ўсе розумы. Цікава, што 78 са 100 чалавек скардзяцца на турботы са страўнікам. Гэта ўжо эпідэмія! Гэта прыводзіць да высновы, што чалавечы розум варта разглядаць не столькі з філасофскага або тэалагічнага пункту гледжання, як гастраномнага. Але гэта, дарэчы... У любым выпадку, апакаліптычнае бурчанне 78 са 100 чалавечых страўнікаў «расстэфанілася» на ўвесь свет з хуткасцю павярхоўнай хвалі. Апакаліпсіс! Проста дамагаемся Апакаліпсісу. Так, на працягу многіх стагоддзяў, тысячагоддзяў... Канец свету аднак не мае канца. Можа таму не слабее попыт на беспамылковых прарокаў, хто з дакладнасцю да адной хвіліны, нарэшце, абазначыць пэўную дату Апакаліпсісу? Суднага Дня? Скону?

На працягу ўсёй гісторыі чалавецтва не было веку, у якім не праслаўляліся меншыя або большыя прарокі. Існуе попыт, ёсць прапанова! Асабліва багатае ў іх дзевятнаццатае стагоддзе. Возьмем, да прыкладу, Злучаныя Штаты. Чалавек па імі Ульям Мілер там абвясціў, што Судны Дзень будзе адбывацца менавіта 3 красавіка 1843 года. Год да гэтага начное неба ўзараў эфектны метэорны дождж, прароцтва Мілера прыцягнула да сябе ўвагу мільёнаў амерыканцаў. Самымі заўзятымі з іх фармуецца рух мілерытаў. Калі стала ясна, што прароцтва недарэчнае, мілерыты разбіліся на некалькі канкурэнтных сабе фракцый. Адна з іх стала ў 1863 г. касцёлам адвентыстаў сёмага дня. Сёння каля 15 мільёнаў іх паслядоўнікаў прагна выглядае канца свету. Іншая фракцыя ў 1914 г. ператварылася ў касцёл Сведак Іеговы( цяпер 7 мільёнаў чалавек). Яшчэ адна фракцыя, у 30-х гадах дваццатага стагоддзя назвалася Галінай Давіда. Праз 60 гадоў, калі гіпнатычнае кіраўніцтва над душамі сваіх паслядоўнікаў узяў харызматычны Дэвід Корэш, прадракаючы хуткі канец свету, адбылася трагедыя. У выніку сутыкненняў з войскамі ФБР, дайшло да пажару паселішча, у якім забарыкадаваліся члены гэтай групы. Жыўцом згрэла 76 паслядоўнікаў Прарока, у тым ліку 27 дзяцей і сам Корэш. Або Архістэфан?!

Па маіх скрупулёзных разліках на Апакаліпсіс разлічвае 78% чалавечага насельніцтва! Ці для тае большасці званіў у лістападзе зямны звон? Для Стэфанаў? Ці для нестэфанскай меншасці?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбарчы марафон (8)

У гэтым нумары «Нівы» завершым нашу вандроўку па выніках самаўрадавых выбараў у Падляшскім ваяводстве. Засяродзімся на некаторых нашых гмінах, у якіх мелі месца найбольшыя неспадзяванкі і змены на пасадах войтаў. Трэба аднак сказаць, што ў многіх беларускіх гмінах улада крэпка дала адпор наступаючай канкурэнцыі. Вельмі цікавым было змаганне ў Гарадоцкай гміне, дзе дзейсны войт Веслаў Кулеша перамог вядомага журналіста Уладзіслава Праховіча лікам галасоў 1452 да 1026. Так здарылася, між іншым, і ў гмінах Крынкі, Дубічы-Царкоўныя, Нарва, Кляшчэлі, Бельск-Падляшскі, Чыжы, дзе дзейсныя войты маюць перад сабою пяць гадоў чарговага ўладарання. Затое сапраўдным віртаннем на белым кані стаў выбар бургамістра Міхалова. На пост гаспадара Міхалоўскай гміны балатавалася ажно пяць кандыдатаў і ў першым туры пераможцам стаў Марк Назарка, які страціў пасаду бургамістра чатыры гады таму назад. Атрымаў ён 1909 галасоў, а другі кандыдат Лявон Баршчэўскі ўзяў 769 галасоў. Апошнія трох карысталіся яшчэ меншай падтрымкай выбаршчыкаў. А тыя, відаць, засумавалі па інвестыцыйным буме міхалоўскага шэйха, бо і такой мянушкай карыстаецца ён у народзе. Ці ў гміне надыходзяць ізноў часы неспадзяваных канфліктаў — пажывем, пабачым.

Зусім неспадзяваным і нечаканым стаў вынік выбараў у суседняй гміне Нараўка. Каб перад выбарамі сказаць, што прайграе там Мікалай Павільч, ніхто не даў бы веры такім прагнозам. Аднак такое здарылася. Малады кандыдат Яраслаў Галубоўскі з вынікам 1086 галасоў перамог ужо былога войта, за якога прагаласаваў 831 жыхар. Усе шукаюць прычыны паразы гэтага вядомага падляшскага самаўрадаўца. Адны гавораць, што гміна патрабавала змен ад даўгаўладдзя войта Павільча, другія бачаць ягоную паразу ў тым, што не бараніў занадта памяці загінулых з рук польскага падполля мясцовых беларусаў пасля Другой сусветнай вайны. Якія тут праўды важнейшыя, ведаюць перш за ўсё самі выбаршчыкі, якія вырашылі даць шанц маладому пакаленню Нараўчанскай гміны. Аднак розніца ажно 255 галасоў паміж канкурэнтамі сведчыць пра тое, што людзі ішлі да выбарчых скрыняў ужо перакананымі, на каго аддаць голас.

А сапраўднай сенсацыяй, бо так гэта трэба назваць, сталі вынікі галасавання ў гміне Орля, дзе войтаўскі кабінет страціў Пётр Сэльвесюк. Набраў ён 777 галасоў, а ягоны канкурэнт Лявон Паўлючук атрымаў падтрымку 879 выбаршчыкаў. Трэцяя канкурэнтка Хрысціна Юзвюк набрала менш за 100 галасоў і зусім не лічылася ў выбарчай гонцы. Што такое здарылася што войт Пётр Сэльвесюк, які напярэдадні галасавання адкрыў у Орлі доўгачаканы ўсімі мадэрны і шматфункцыйны цэнтр культуры, не атрымаў выбарчай перамогі? Невядомая ласка выбаршчыкаў і таямніца галасавання прынеслі такое, а не іншае рашэнне. Факт, што гміна пад кіраўніцтвам ужо былога войта паднялася з фінансавай беднасці дзякуючы вялікім прамысловым інвестыцыям на яе тэрыторыі, гэтым разам не паўплываў на яго карысць. Таксама і ў самой радзе гміны людзі з войтаўскага камітэта Пятра Сэльвесюка апынуліся ў меншасці на аднаго раднага. Усе зараз ставяць пытанне: ці пасля пяці гадоў перапынку Пятро Сэльвэсюк стартане ў чарговых выбарах, каб вярнуцца на страчаную пасаду? Ці расчараваны пройгрышам і выбарчым рашэннем жыхароў гміны пойдзе зусім другім працоўным і грамадскім шляхам?

Два другія туры выбараў адбыліся на поўдні нашага рэгіёна ў гмінах Чаромха і Мельнік. Чаромхаўскі войт Міхал Врублеўскі адышоў на пенсію і адкрыў дарогу для змагання за сваю пераемнасць. У першым туры не быў абраны пераможца, а ў другім апынуліся Юры Шыкула, які быў войтам адзін тэрмін восем гадоў таму назад і Юры Васілюк. Змаганне вялося да апошняга дня, калі з невялікім адрывам перамог Юры Васілюк, які набраў 739 галасоў, калі канкурэнт атрымаў іх 697. Па-суседску ў Мельніцкай гміне лідаруючы ў першым туры войт Яўген Віхоўскі атрымаў паразу ў другім туры з Марцінам Урбанскім лікам галасоў 624 да 867.

Перад намі пяць гадоў да чарговых выбараў. Спадзяемся, што любімыя лозунгі самаўрадаўцаў пра дабро людзей не будуць толькі пустымі словамі.

**Яўген ВАПА**

# Абрад яднае!

Ужо 25 раз агляд «Беларускі абрад на сцэне», апошняе гадавое мерапрыемства Беларускага грамадска-культурнага таварыства збірае выканаўцаў і гледачоў з усёй Беласточчыны. Пакуль адбудзецца галоўнае мерапрыемства — сёлета ў Гайнаўцы, праводзяцца павятовыя агляды, але таксама і гмінныя. Я, ад чвэрці стагоддзя шчырая аматарка такіх мерапрыемстваў, з прыемнасцю аглядаю і чую пастаноўкі старых нашых аўтараў, як Ніна Цыванюк з Гарадка, і новыя, падрыхтаваныя і напісаныя маладзейшымі творцамі. А на сцэне паказваецца і новае пакаленне, аж да малечаў са сваімі бацькамі, як удзельнікі з Беларускага садка № 14 у Беластоку. Яны мелі дзве цудоўныя пастаноўкі, дзеля якой выдалі нават плакат — са здымкамі бацькоў і дзяцей. І пачынаецца завіруха — нават з мукой, калі пякуць каравай. Малым бываеш толькі раз, але і героі, і бацькі, і ўся зала, у якой на гэтыя мерапрыемствы прыбывае мноства «старых» заўзятараў такіх змаганняў — усе яны ў гэтае свята тэмпераментныя малойчыкі. Проста радасць свеціцца на тварах усіх. На дасціпныя тэксты са сцэны адгукаюцца гледачы, смяюцца, падтакваюць: «О, так то яно і было! О, даў жару! А мужык то стаіць у дзвярах, на вячоркі таксама прыбег! О, якая харошая маладая парачка! А каравай той такі рагаты ды цыцаты! Ну, так і ў нас казалі! О, гэтага дзядзьку мы ж ведаем! Гэта Латышонак, той высокі, а яго мама то з Лукі!». Аказваецца, сабраныя гледачы, якія, бывала, здаўна, яшчэ ад пачатку існавання таварыства, прыходзілі на свойскія забавы і самі прымалі ўдзел у народнай творчасці, у гульнях, арганізаваных тутака, ведаюць сябе ў твар, ведаюць усялякае кумаўства-сваяцтва паміж выступаючымі. Паказваюць: «О, гэты чалавек займаецца ў свячным ямшчыку ў Заблудаве. А гэтая цётачка то з маёй вёскі! А во тая дзяўчынка, што маладую іграе, дык і на дэкламатарскім конкурсе выдатна вершы кажа!».

— Выступаем мы ўжо тут з жонкай і сынам не першы раз, — кажа Алег Латышонак, гаспадар, які на сцэне за сталом чытае «Ніву». — Вельмі гэта любім. Для некаторых гэта ёсць таксама і вывучэнне беларускай мовы, паколькі з беластоцкіх бацькоў большасць ужо польскамоўная, але вельмі стараюцца па-беларуску сказаць свае сказы, сваю ролю. Вельмі таксама добра, што сярод бацькоў знайшоўся Кірыл Лепай, вельмі адораны артыст, і таксама мае правадырскую харызму, выступае ў нас як рэжысёр, і дзякуючы яму, у нас усё складаецца.

І бачым, перш за ўсё сярод гледачоў, бабуль і дзядуляў. Які гонар убачыць свайго бадзёрага ўнучка, які яшчэ нядаўна тут хаваўся за мамінай спадніцай. А вядучыя калектывы, як Вера Масайла з Гайнаўкі ці Лідзія Мартынюк з Рыбалаў, маюць ужо сваіх наследнікаў і памочнікаў. Хаця тут на пенсію не ідуць!

— Пакуль ускараскаемся на сцэну, будзем іграць! — кажуць жанчыны з гарадоцкага «Асенняга ліста». Сёлета яны не паехалі ў Беласток, уступілі месца «Расспяванаму Гарадку» дзеля прадстаўлення Гарадоцкай зямлі, а самі яшчэ ў канцы кастрычніка з тэмпераментам паказалі сваю знахарку і яе цудоўныя дзеянні. Геніяльна сыграла знахарчынага мужа Мірка Антановіч, родам з меляшоўскіх Кастэнцікаў. Меляшкоўскія гаспадыні яшчэ з шасцідзясятых гадоў ставілі на сцэне нават беларускую класіку. Упадабалі сабе асабліва сатырычныя сцэнкі, што з іхнімі *vis comica* нават без грыміроўкі даводзіла публіку да здаровага рогату і слёз. А спеўныя гарадчанкі выдатна выступілі са сваім «Капаннем бульбы», складзеным яшчэ Нінай Цыванюк, і нават вогнішча загарэлася і задымела ў будынку Галоўнага праўлення. У самім Гарадку выступілі яшчэ дзеці, паказаўшы п'есу аб тым, што жанчыны з Венеры, а мужчыны з Марса, хаця так сапраўды ўсе са свойскай вёскі, дзе без жаночага полу няма парадку. І няма тэкстаў, калі іх не напіша таленавітая настаўніца. А пад рукой адукаванага рэжысёра з нашых бакоў (Міхась Станкевіч родам з Пяшчанік) нават такія актрысы як «Але Бабкі» са Случанкі і ваколіц, разам з самавітай і адоранай многімі талентамі Гандзяй Садоўскай з Валіл-Двара так не будуць выдатна глядзецца на сцэне, аздобленай макра-малюнкамі Марысі Мялешкі. Гарадок дзякуючы ім — і малюнкам, і тэкстам, і выдатнай ігры маладых і старэйшых акцёраў — вельмі каларытны і не дае прапасці тутэйшаму духу. І дае натхненне іншым творцам. Бо як жа пішуцца тэсты пасля гасцявання ў Гарадку ці ў Меляшках, магу сказаць я сама. :-)


■ Гарадок капае бульбу


■ Садок н-р 14 пячэ каравай


■ Гайнаўскія «Званкі» раскінулі нежаданае веселле


■ Вера Нічыпарук з Маліннік вітае каляднікоў

А што на «Допытах», якую падрыхтавала з пастаяннай «зборнай» Вера Масайла? Яна і напісала п'есу, і растлумачыла гледачам, што гэта за абрад «Допыты». Вось:

*Сцэна III (Да маці Насці прыходзіць Янка, потым цётка Нюра).*

Маці: — Насці няма дома, чаго ты прыйшоў?

Янка: — Добры дзень вам. Добра, што яе няма. Я да вас, прабачце, будучая цешча.

Маці: — Да мяне? А што ты хочаш ад старой бабы.

Янка: — Якія вы там старыя. Прашу вас, малю: не аддавайце Насці замуж за гэтага Карытляніцу.

Маці: — А то чаму?

Янка: — Яму ж каля саракоўкі! Вы хутчэй узростам пасавалі б яму на жонку, чым ваша дачка!

Маці: — Будзе шанаваць маладую.

Янка: — Хутчэй не будзе, як будзе. Ён, як мне казалі — так як і яго бацька — лянівы дармаед. Толькі чужымі рукамі заграбаў бы попел. А я так Насцю кахаю, думаю, што з узаемнасцю. Паслухайце мяне, прашу!

Райчыня: — Добры дзень. Добра, што вас абое бачу. Хачу прасіць у вас прабачэння. Хачу расказаць вам тым разам праўду пра Карытляніцу Сцяпана і яго бацькоў. Далі мне яны кручок гарэлкі і дзве прагнілыя грушкі, каб я падказала ім на нявестку добрую, працавітую дзяўчыну з чужой вёскі.

Янка: — У сваёй усе іх добра знаюць.

Райчыня: — А як! А я, дурная, выпіўшы чарку самагонкі, палакомілася на нішто і ледзь вас у пропасць не запхнула. Яны ж лянуюцца курку на яйках пасадзіць, нават на розглядах яечня была з яек пазычаных у суседкі.

Янка: — Людзі гаварылі, што Сцёпа ў сваты прыязджаў пазычаным жарабцом, а пазычаныя пад розгляды каровы ніяк не хоча аддаць суседзям, кажа, што аддасць пасля вяселля, каб вы раней не разабраліся ў чым справа.

Райчыня: — Сапраўды, так людзі гавораць. Каб я з гэтага месца не паварушылася, калі няпраўду кажу!

Маці: — Тады, цётка Нюра, вы хвалілі, цяпер ганіце. Я ж была ў розглядах і назаўтра запрасіла бацькоў Сцёпы да мяне ў лады. Думала — зраблю гасціну. Запрашу сваякоў — а цяпер сама не знаю, што і думаць...

Райчыня: — Хадзіце на панадворак, больш раскажу, з хвалявання задыхаюся...

Трэба ўбачыць радасць гледачоў, як тыя лады да вяселля Насці з нараеным сталаватым бамбізам, лянотай ды ілгуном рассыпаліся! Быццам бы ўласную дачку ці ўнучку ўратавалі ад няўдалага сужонства! «Ой, добра тая Вера напісала! А маладыя як файна сыгралі!». А пра пастаноўку вячорак бельскіх «Васілёчкаў» ці мяшчан залатога веку, які сабрала і падрыхтавала нястомная Тамара Русачык: «О то то, жару далі! І якім смакоцем пачаставалі!». Гасцінцы з рук мастакоў слова і абраду цешылі таксама. «Гэта як быццам бы мы разам з імі на сцэне пасядзелі! — кажа дзядзька Сяргей. — Зусім як калісь у беларускім клубе. Варта было б, каб такі клуб у нас узнік. Файна таксама, што пасля пастановак маем канцэрт — быў «Ас», быў «Лайланд». Усе мы спявалі. Падабаецца мне вось тая гайнаўская пастаноўка, справядліва кончыцца»...

*Вось: Янка і Насця ідуць цераз сцэну трымаючыся за рукі і спяваюць песню «Толькі з табою», падыходзяць да маці Насці, якая вышывае макатку.*

Насця: *(Абдымае маці і гаворыць)* — Як цудоўна! Дзякую, мама, за такі абарот спраў. У нас ёсць планы.

Янка: — Слухайце! Мне вельмі хацелася б паехаць на Прусы — зарабіць грошай пад вяселле, там, кажуць, шмат добра платнай работы, а ў мяне дзве здаровыя рукі, галава таксама добра варыць.

Маці: — Цікава гаворыш, слухаю далей...

Янка: — А дома чатыры браты і бацька, дадуць сабе рады без мяне. Вярнуся, як дасць Бог, ажанюся з Насцяй, дакуплю зямелькі, пастаўлю хату. Можа, дачакаемся дзетак і будзем шчаслівы з Насцяй жыць і абрабляць сваю зямельку ў роднай вёсцы. З Насцяй і толькі з каханай Насцяй. Калі благаславіце нас, мама.

Маці: — А чаму ж не?!

Насця: — А я хацела б, мама, паехаць, Янку дапамагчы. Дазволіце?

Маці: — А ёсць выбар? Нездарма кажуць — можна пажыць і ў шалашы, каб толькі мілы па душы.

*(Маладыя танцуюць пры песні «Толькі з табою», якую іграе Гарманіст і хаваюцца за сцэнай).*

— Ну, вось так і было, — кажа пані Зіна. — Таму і прыходзім. Пабачыць былое, паглядзець на таленавітых людзей. Не забываем. У сэрцы цяплее, калі пабудзем разам.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Супрацьпажарная ахова ў Арлянскай гміне

Штогадова гмінныя радныя атрымліваюць інфармацыю пра рэалізацыю задач па супрацьпажарнай ахове. Як паведаміў працаўнік Рафал Куптэль, на тэрыторыі Арлянскай гміны дзейнічае сем добраахвотных пажарных каманд; дзве з іх, арлянская і, з 15 снежня 2017 года, малінніцкая, уключаны ў краёвую выратавальна-тушыльную сістэму.

Добраахвотная пажарная каманда з'яўляецца абмундзіраванай часцю, абсталяванай спецыяльнай апаратурай для змагання з пажарамі, стыхійнымі бедствамі і іншымі мясцовымі пагрозамі. Да таго ж падтрымлівае разнародныя формы культурна-асветнай працы ды папулярызуе спартыўную дзейнасць. Кошт абсталявання, утрымання, абучэння і захавання боегатоўнасці пажарнікаў нясе гміна. Гміна запэўнівае абмундзіраванне і страхаванне пажарнікаў ды аплату іх перыядычных медыцынскіх абследаванняў.

Зараз у Арлянскай гміне 164 актыўныя пажарнікі (у 2016 годзе было іх 136, у 2008 — 145). У паасобных камандах Арлянскай гміны розныя лікі членаў: у Орлі 64 пажарнікі (у 2016 годзе — 50), у Малінніках 32 (28), у Рыгораўцах 18 (11), у Рудутах 17 (13), у Вульцы-Выганоўскай 6 (8), у Градалях 16 (10) і ў Спічках 11 (16)

За перыяд з 1 студзеня да 31 жніўня 2018 г. на ўтрыманне пажарных каманд выдаткавана квоту ў амаль 45 тысяч злотаў у рамках бягучых выдаткаў на аснашчэнне і ўтрыманне каманд, куплю паліва і рамонт тэхнікі амаль 14 тысяч зл., на страхаванне пажарнікаў і будынкаў дэпо звыш пяці тысяч, на перыядычныя медабследаванні і абучэнне пажарнікаў 1210 злотаў, на эквівалент пажарнікам за ўдзел у тушыльных акцыях звыш васьмі тысяч ды на безасабовую плату звыш 16,6 тысяч злотаў.

На аснове пастановы Сейміка Падляшскага ваяводства ваяводскае самакіраванне прызначыла фінансавую дапамогу квотай у восем тысяч злотаў, якую прызначылі на пакупку абсталявання і элементаў абмундзіравання каманды ў Малінніках.

У кастрычніку г.г. у рамках Фонду дапамогі пакрыўджаным ды постпенітэнцыярнай дапамогі Арлянская гміна атрымала дафінансаванне звыш 21,5 тысяч на пакупку неабходных прыбораў для аказвання дапамогі.

* * *

Паводле прадстаўленай радным інфармацыі каменданта Дзяржаўнай пажарнай аховы ў Бельску-Падляшскім, ст. брыг. Вальдэмара Кудрэвіча, у Бельскім павеце ў 2017 годзе наступіў спад колькасці небяспечных здарэнняў на 2%; годам раней быў рост на 44,7%. У катэгорыі мясцовых пагроз таксама наступіў спад на 20 інтэрвенцый, г.зн. на 5%; годам раней быў тут рост на 68 здарэнняў, г.зн. на 26,7%. У катэгорыі пажараў колькасць здарэнняў паменшала на тры інтэрвенцыі, г.зн. на 2%; годам раней быў рост на 112 інтэрвенцый, г.зн. на 69,1%. Затое фальшывых трывог было ў 2017 годзе 18, г.зн. на шэсць больш чым годам раней. Агулам колькасць інтэрвенцый у 2017 годзе парытэтная з колькасцю выратавальна-тушыльных акцый у 2016 годзе.

На тэрыторыі Арлянскай гміны ў 2017 годзе зафіксавана 40 здарэнняў, а ў першыя восем месяцаў бягучага года 42 здарэнні.

У 2017 годзе ў цэлым Бельскім павеце зафіксавана 137 пажараў, у тым 10 на тэрыторыі Арлянскай гміны. У першыя восем месяцаў бягучага года ў павеце зафіксавана 141 пажар, у тым ліку 17 у Арлянскай гміне. Прычынамі іх былі неасцярожнае абыходжанне з адкрытым агнём — 9, няправільнае абслугоўванне абагравальных прыбораў — 3, атмасферныя разрады — 2, няправільнае карыстанне электрапрыборамі — 1 і іншыя — 2.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Шматкультурны Беласток — паміж уяўленнем і рэчаіснасцю

«Акрэсленне „шматкультурны" засланяе рэальны вобраз Беластока», — сказаў прафесар Андрэй Садоўскі (на здымку справа). На Універсітэце ў Беластоку 29-30 лістапада прайшла навуковая канферэнцыя пад загалоўкам «Аблічча вялікага горада: установы, арганізацыі, працэсы». Сацыёлагі размаўлялі, між іншым, аб шматкультурнасці, лакальным патрыятызме, іншаземцах. На думку прафесара Андрэя Садоўскага, называючы горад шматкультурным, прысланяецца многа важных праблем з пункту гледжання дэмакратычнага грамадства. Вядомы сацыёлаг расказаў «Ніве» аб прычынах асіміляцыі беларусаў і сённяшні Беласток.



— **Шматкультурнае аблічча Беластока — гэта толькі фасад?**

— Я працую над тэрмінам «шматкультурнасць» на Падляшшы, даўняй Беласточчыне і гэтую тэрыторыю трактую як лабараторыю. Тут можна пазнаваць многа, а пазней на аснове гэтага размаўляць аб шматкультурнасці. Выкарыстоўванне тэрміна «шматкультурнасць» больш шкодзіць для Беластока, чым памагае. Таму, што калі скажам «шматкультурны», тады лічым, што справы этнічных адносін у нас вельмі добрыя, што ўсё ў парадку, што ў Беластоку цудоўнае суіснаванне народаў, этнічных груп, веравызнанняў, што можна нас ставіць у прыклад. Я не супраць Беластока. Як у кожным горадзе ў нас шмат праблем. Сцвярджэннем таго, што ён шматкультурны, прыкрываецца дамінацыя польскага народа. Устанаўліваюцца пэўныя межы дамінацыі, беларускасць і ўкраінскасць падтрымліваюцца, але вызначаюцца пэўныя межы іх існавання. Называючы горад шматкультурным, засланяецца многа важных праблем з пункту гледжання дэмакратычнага грамадства. Для мяне шматкультурнасць можа быць тэмай навукі, якая даследуе, што зрабіць, каб увесці дэмакратыю ў сферу культуры. Аказваецца, што мы не да канца ведаем, што гэта дэмакратыя!

— **Што гэта дэмакратыя ў сферы культуры?**

— Роўнасць і свабода. Што гэта значыць роўныя культуры? Усе маюць такія самыя шанцы. А свабода, гэта свабода выбару культуры. Беласток характарызуецца з'явамі, якія даказваюць, што мы змяняемся. Мы рухаемся наперад, але не да шматкультурнасці, гэта яшчэ доўгая дарога, толькі ў напрамку плюралізму.

— **Аднак зараз у Беластоку відаць, што меншасці ўплываюць у нейкай ступені на культурнае жыццё горада. Гэта можа быць доказам, што прадстаўнікі меншасных культур знайшлі сябе ў большасным грамадстве?**

— Я заўважыў такі механізм у Беластоку — відаць функцыянаванне меншасці, але паводле прынцыпу, што кожны сабе арганізуе нешта атракцыйнае. Ёсць беларускія фестывалі — там выступаюць і гурты з Беларусі, але ці прыходзяць на іх этнічныя палякі, якія цікавяцца беларускай культурай і хацелі б яе пазнаць? Меншасці маюць мерапрыемствы для сябе, на якія прыходзяць свае. Беласток з'яўляецца горадам розных культур, якія маюць магчымасці паважаць свае вартасці, але ў сваім асяроддзі. Увесь час не хапае нам ведаў, як прыцягнуць суседа, які таксама гэтай культурай зацікавіўся б і наадварот. Гэта выклік для Беластока.

— **Вы таксама звярнулі ўвагу на тое, што пасля Другой сусветнай вайны з'явіўся тэрмін «праваслаўны паляк». Аб чым гэта сведчыць?**

— Беларуская меншасць асімілюецца. Але з іншага боку, не адмаўляецца ад сваіх этнічных асаблівасцей. Адной з іх з'яўляецца іхняя рэлігія — праваслаўе. Зараз праваслаўе ў прадстаўнікоў іншых рэлігій ці веравызнанняў у Беластоку не ўзбуджае варожасці. І зараз паўстала такое дзіўнае словазлучэнне, якое стала зручным. Калі скажу, што з'яўляюся палякам, тады не інфармую аб складаным этнічным абліччы, а калі проста назаву сябе праваслаўным палякам, тады іншыя лічаць мяне нерадыкальным палякам. Сапраўды, «праваслаўны паляк», «мусульманін паляк» — гэтыя тэрміны пачалі функцыянаваць пасля вайны. Гэта чарговы доказ на патрэбу асіміляцыі беларусаў.

— **Дзякую за размову.**

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Растанцаваны Беласток



У Польшчы зноў узгадалі Беласток. Гэтым разам ідзе пра тое, што былы танцор польскай папсавай (disco polo) групы «Boys» Артур Косіцкі стаў маршалкам Падляшскага ваяводства. У эфіры самага папулярнага ў Польшчы радыё RMF журналісты жартуюць, што Косіцкі будзе выступаць у групе «Boys Pis» і растанцуе ўвесь Падляшскі сеймік. Смяюцца, што палісеў ад нерваў адкуль належыць да партыі Права і справядлівасць таму, што як танцаваў у групе «Boys» з 1997 да 2004 года дык яшчэ меў валасы. Я думаю, што ў Польшчы было б намнога весялей, калі б з партыі «Disco Polo Live» балатаваўся лідар групы «Акцэнт» Зэнон Мартынюк дык напэўна стаў бы прэзідэнтам Польшчы. Прэм'ерам Польшчы стала б польская спявачка Shazza з партыі «Disco Relax». Нашы хлопцы з гурта «АС» стартавалі б з партыі «Гэй гоп бесяда», «Прымакі» з партыі «Сяброўская бяседа», а група «Зорка» з партыі «Буракі-салат-капуста» і гэтак далей і таму падобнае. Напэўна яны дасталіся б у Сеймік Падляшскага ваяводства і нам было б весялей і яны мелі б больш грошай чымсьці з падбірвання на вяселлях. Пасмяяцца можна, але ўжо даўно маем у Сейме партыю «Кукіз-15», якой лідарам з'яўляецца рок-музыкант Павел Кукіз з групы «Кукіз і Персі», а яшчэ нядаўна сенатарам Права і справядлівасці быў лідар польскай рок-групы «Будка суфлера» Кшыштаф Цугоўскі. Затое былы лідар групы «Toples» Марцін Сегеньчук стартаваў у выбарах да Рады горада Беласток з партыі «Кукіз-15». Дык хай музыканты прымаюць удзел у выбарах, а будзе растанцаванае наша Падляшша і ўся Польшча. А нам, шэрым людзям, будзе з чаго пасмяяцца, напрыклад, калі ў адну пятніцу Кукіз «паплыў» на твітары.

**Юрка БУЙНЮК**

# Грузія — мая любоў
## (частка 3)

Быў пачатак красавіка 2015 года. Мы збіраліся праехацца Грузінскай ваеннай дарогай, але ў гарах выпаў снег, спыняючы паток фураў прама на абочынах гэтай найважнейшай для Закаўказзя магістралі, якім не пад сілу было ўзабрацца на Крыжовы перавал (2400 метраў). Нават бачныя з Тбілісі не надта высокія вяршыні пабялелі.

— А якая ў вас тут у гарах зіма? — спытаў я маладую прадаўшчыцу ў невялікай тбіліскай краме.

— Праўду кажучы, не ведаю, бо я ў гарах ужо некалькі гадоў не была.

Як гэта, а Тбілісі што, даліна? Здзівіўся я моцна, але толькі ў думках, бо тут жа да мяне дайшло, што выказваючы гэта ўголас магу пакрыўдзіць дзяўчыну, для якой горы — суровыя скалы з паштовак, пастухі са статкамі авечак на высокіх лугах і забытыя Богам і людзьмі хацінкі ў далінах, да якіх больш за паўгода не можна дабрацца. А яна ж не проста гарадская, а жыхарка паўтарамільённай метраполіі. Пры чым гэта сталіца краіны з вельмі адрозненымі адзін ад аднаго рэгіёнамі. Ды і сам горад не маналіт. *Tbilisi to Gruzja w miniaturze. Cała gruzińska pstrokacizna — Kachetia i Swanetia, chrześcijaństwo i islam, Zachód i Wschód, Europa i Azja — jest tu ściśnięta na paru kilometrach kwadratowych, ograniczonych zboczem Świętej Góry (Mta Cminda) i twierdzą Narikala na południu oraz wzgórzami dzielnic Kukia i Elia na północy (miasto ciągnie się jeszcze kilometrami, ale nowe osiedla — Wake czy Saburtalo, nie mówiąc o Warketili i Didi Digomi — nie mają wpływu na jego charakter). Stare Tbilisi można obejść w dwie, trzy godziny, od wzgórz na południu do wzgórz na północy (Mandelsztam pisał o „garbatym Tyflisie"), oraz wzdłuż rzeki Mtkwari (Kury), która płynie z zachodu na wschód. (Wojciech Górecki, Toast za przodków)*

Прайсці стары Тбілісі ў дзве, тры гадзіны? Хм, пэўна магчыма, але навошта ж так спяшацца, калі навокал столькі цікавага? Стракатая архітэктура з незвычайна багатай, ажурнай драўлянай выразкай, крамы з дыванамі, керамікай, вопраткай, біжутэрыяй, забягалаўкі з півам, віном і чачай, рэстараны з хінкалі, хачапуры і баклажанавай пастай, ларкі з фруктамі і чурчхелай — доўгімі ледзяшамі з астылым вінаградным сокам, у якім, бы ў бурштыне, розныя арэхі. Ды і прыказка „паспяшыш — людзей насмяшыш" тут як нідзе адэкватная. Тбілісцы ходзяць з годнасцю, вітаюцца са знаёмымі, маюць час на абмен навінамі прама на вуліцы. А сам горад вельмі доўга прачынаецца. „У нас да дзясятай нават хлеба не прывозяць", — рассмяяўся Малхаз Чэмія, якому мы паскардзіліся, што а гэтай гадзіне быў яшчэ зачынены падземны рынак Мейдан. Затое доўга не спіць. Коркі на вуліцах да дзясятай вечара.

А паспрабаваў бы Войцех Гурэцкі прайсціся па цэнтры Тбілісі ў свята віна! Ларок ля ларка і на кожным можна паспрабаваць віна, а яно там з усіх куткоў Грузіі. Да таго свіныя і баранія шашлыкі, сыр з каралём мясцовых малочных вырабаў — салёным авечым сулгуні, квашаная гароднiна, свежая і сушаная садавіна, салодкасці. І жывая музыка, пры якой ногі самі ідуць у скокі, а мелодыю яшчэ доўгадоўга будзеш падпяваць у час ранішняга туалета. І гукі, і смакі, і пахі, і колеры. І пякучы як агонь вінаградны дыстылат — чача. І гэта не канчаецца да вечара, але ўвага, калі мы былі, закончыліся пластмасавыя кубачкі, так што асобам з моцнай галавою раю ўзяць свой посуд.

Тое ж самае адбываецца на свята горада — Тбілісоба. Пару гадоў таму ўлады вырашылі, што будзе яно праходзіць у першыя выхадныя кастрычніка. Надвор'е адпаведнае — не надта горача і не надта холадна — гараджане вярнуліся з адпачынкаў і з радасцю сустракаюць турыстаў. Мэрыя, разам з уладамі дзяржавы і культурным бамондам гуляюць на Святой гары, пад тэлевізійнай вышкай. Парад элегантных сукняў і касцюмаў. Побач з велічэзнай белай палаткай, на асветленай пляцоўцы з шыкарным відам на вячэрні горад, у якім таксама шумна і калярова. Нягледзячы на тое, што адзін бармен стаў нам наракаць: „Э, то ўжо не тая Тбілісоба. Нават робяць яе не тбілісцы". А хто? Іранцы.



Дамы пад крэпасцю Нарыкала



Свята віна ў Тбілісі.

Можа гэта і „народная" мудрасць, але іранцаў у Тбілісі сапраўды многа, вядуць бізнесы, працуюць у рэстаранах і крамах. Хаця Грузія бяднейшая за Іран, то ім у гэтай маленькай краіне вальней дыхаецца і прыязджаюць туды не за вялікімі грашамі, а за свабодай. Гэта чарговы доказ на прывабнасць грузінскай зямлі і гасціннасць яе жыхароў.

* * *

Я асабіста найбольш люблю хадзіць вулачкамі Бетлеемкі, Нахілаўкі і Мтацмінды. Першыя два кварталы — яўрэйскія, мяжуюць з самым цэнтрам турыстычнага старога горада, а іх вулачкі пнуцца ўгару, да крэпасці Нарыкала. Апошні падымаецца ўверх ад найважнейшай вуліцы — праспекта Шоты Руставелі — да Святой гары, у палове якой царква св. Давіда і невялікі, як быццам прыклеены да скалы могільнік, які ўсе называюць грузінскім Пантэонам. Апошнім палітыкам, якога там не без кантраверсій, затое з тлумам прыхільнікаў, пахавалі, быў Звіяд Гамсахурдзія. Паколькі, аднак, на помніках амаль выключна прыгожыя, але зусім незразумелыя грузінскія літары, то яго магілы не ўдалося нам ідэнтыфікаваць, хаця пабывалі там некалькі разоў. Можна да Мамадавіці ўзабрацца пехатой, што і робяць школьныя экскурсіі з задыханымі настаўніцамі, або ўехаць адрэстаўраваным фунікулёрам, які збудавалі бельгійцы ў 1905 годзе.

Унізе Праспект Руставелі з усімі важнейшымі ўстановамі на паўтаракіламетровым адрэзку ад Плошчы Сабоды да



Крывая вежа Лялечнага тэатра

плошчаў Руставелі і Рэвалюцыі ружаў. Праўда, парламент цяпер у Кутаісі, куды перанёс яго Міхаіл Саакашвілі, каб дэцэнтралізаваць краіну, але тбілісцы чакаюць яго вяртання, паколькі заканчваецца рамонт велічэзнага будынка. Тут і опера, і Нацыянальны драматычны тэатр, і Нацыянальны музей з залатым Скарбам Калхіды (вывезеным ад бальшавікоў у Парыж і вернутым незалежнай Грузіі) і багаццем свецкага і сакральнага мастацтва ад глыбокай старажытнасці, і Палац Варанцова, адкуль расійскія наместнікі кiравалі Закаўказзем і дзе працаваў парламент Грузінскай Рэспублікі з 1918 па 1921 год. Дарэчы, усе грамадзянскія войны 1990-х адбываліся перш-наперш на Праспекце Руставелі і суседніх вуліцах, а ў больш аддаленых кварталах маглі пра іх і не чуць.

З тых крыху толькі аддаленых кварталаў варта наведаць шумны студэнцкім жыццём Ваке, элегантную вуліцу Давіда Будаўніка па другі бок Мткввары (пасля грунтоўнай рэканструкцыі), у раёне якой калісьці густа сяліліся немцы, а потым саветы лічылі вельмі прэстыжным месцам. Цяпер там шмат амбасадаў. А нам помніцца смак баклавы з адной турэцкай цукерні. Побач распаложаны невялікі, але элегантны Парк Ружаў, які ў нечым нагадвае Люксембурскі агарод у Парыжы. Батанічны сад, схаваны ад гуллівага цэнтра за хрыбтом Нарыкалы летам ужо нас так не захапіў, але ў пачатку красавіка яго экзатычная зелень і вялікія памеры проста нас заваражылі.

* * *

Разнавіднасць Тбілісі зведалі мы не раз. Апошнім часам таксама дзякуючы бабульцы, якая трымала адкрытую да пазна краму побач нашага хостэла ў Мтацміндзе. Пару дзён раней скаштавалі мы ў гасціне ў грузінаў фрукты ўнабі — з выгляду слівкі, у смаку мяшанка яблыка з грушай. У яе якраз іх не было, бо ўжо сезон скончыўся, але пажылая прадаўшчыца абяцала нам іх на наступны дзень. Так і было. Купіў я цэлы кілаграм за 9 лары (каля 15 злотых). Потым пабачылі, як на турыстычнай вуліцы Котэ Абхазі гандляр за шклянку просіць 5 лар, Аліна пахваліла мяне: то быў твой бінес жыцця. Твары нам хутка пасмутнелі ў Аўлабары, дзе аказалася, што не толькі сезон на гэтыя фрукты не кончыўся, бо былі ў кожным ларку, а да таго кілаграм каштаваў 4 або 5 лары.

Таксама перажылі мы (і не раз) дзіўныя гісторыі з коштамі транспарту, але пра гэта ды пра падарожжы па грузінскай правінцыі — праз тыдзень.

(працяг будзе)

**Мікола ВАЎРАНЮК**
**Фота Аліны Ваўранюк і аўтара**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Беларускія калядкі

Ужо з 4 снежня, ад свята Увядзення ў Храм Прасвятой Багародзіцы, дзеці пачыналі вывучаць калядкі. Гэта быў першы этап, прысвечаны вывучэнню слоў і мелодыі. Добры каляднік павінен ведаць многа калядак і спяваць іх напераменку, так каб адчуваць сябе ўвесь час узбуджаным і радасным. У народзе хвалілі каляднікаў, якія зладжана спявалі на галасы і засвоілі новыя песні, складзеныя з многіх строф. А тыя, што спявалі неахайна і тупа, былі жорстка раскрытыкаваныя. І, вядома, атрымлівалі найменшыя грошы...

Сучасныя каляднікі спяваюць па-рознаму. Многія з іх адбарабаняць адну-дзве страфы, да таго замест чытаць з памяці, словы чытаюць са смартфонаў. Такая практыка нікому непатрэбная, яна прывівае нейкую *бэку* чароўнай каляднай традыцыі.

Мы заахвочваем вас развучыць вядомыя калядкі на беларускай мове.



«Падляшскі вянок»

## НЕБА і ЗЕМЛЯ

Неба і зямля,
Неба і зямля,
Радасна спяваюць.

Анёлы свету,
Анёлы свету
Дзіва абвяшчаюць.

*Прыпеў:*
Хрыстос нарадзіўся,
Бог аб'явіўся,
Анёлы спяваюць,
Пастушкі іграюць,
Дзіва-дзіва абвяшчаюць.

У Бэтлееме,
У Бэтлееме
Вясёла навіна

Чыстая Дзева,
Чыстая Дзева
Нарадзіла Сына.

*Прыпеў.*

А мы Дзіцятку,
А мы Дзіцятку
Богу паклон дайма.

Славу на вышынях,
Славу на вышынях
Яму заспявайма.

*Прыпеў.*

*PS. Калядку спяваем на агульнавядомую мелодыю*




**мал. Юстыны Бакуненка**



Віктар Швед

## Добры дзень!

Калі нават дождж цярушыць
На прагулку выйсці мушу.
Лекар раіць: „Хочаш жыць —
Трэба як найбольш хадзіць!"

На сцежцы сярод мокрых дрэў
Я беларусачку сустрэў.
Дрыжыць на ветры кожны пень,
А яна кажа: „Добры дзень!"

Сустрэча з роднаю душой
Сумны развеяла настрой.
Павесялеў нат велікан,
Наш беластоцкі Манхатан.

Беласток,
14 лістапада 2018 года.

## УВАГА КОНКУРС! № 49-18

**У зялёнай сукенцы ўвесь год гуляю:**
**ці сонейка свеціць, ці падае снег,**
**Іголак многа ўсюды трымаю,**
**Толькі не шыю і не вышываю.**
**Е...**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 23 снежня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 45: морква.**

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Габрыела Краснапольская з Нараўкі, Моніка Суровец з Бабік, Алеся Буткевіч, Павел Тамчук з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Карнелія Рамазевіч з Шудзялава, Дар'я Несцярук, Эдыта Бобік, Дам'ян Даліна-Суліма, Каміль Кубаеўскі з Орлі. Віншуем!**

## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

# Адданы ўсім сэрцам: мой герой — брат Міхал!

Маім героем, якім я вельмі ганаруся, з'яўляецца мой старэйшы брат Міхал. Ён заўсёды мне дапамагае і падтрымлівае добрым словам, калі я гэтага патрабую. Але галоўным чынам ён вельмі часта нясе дапамогу іншым, бо ён член добраахвотнай пажарнай каманды.

Брат аддае гэтаму ўсё сэрца. Бо калі толькі дастае паведамленне, ён пакідае працу і, незалежна, дзе ён знаходзіцца, ці гэта дзень ці ноч, амаль ляціць, каб з усёй камандай ехаць на дапамогу.

Я зразумела яго ахвярнасць і адданасць пасля вялікага пажару, які ўспыхнуў зімой у маёй вёсцы Альхоўка. Міхал атрымаў паведамленне пра пажар і хаця гэта была вельмі позняя раніца, ён у кароткіх штанах і кашулі пабег у дэпо. Мяне не было ў тым месцы, але калі я пабачыла здымкі з акцыі ў інтэрнэце, адзін з іх моцна ўбіўся ў маю памяць. Мой брат стаяў на пажарнай лесвіцы з пажарным шлангам у руках. А, самае найгоршае, побач яго страляў агонь.

Гэтыя фатаграфіі мяне напалохалі, але я зразумела, што я павінна ганарыцца тым, што мой брат Міхал такі адважны і што нясе дапамогу людзям у цяжкіх для іх хвілінах.

Я жадаю ўсім, каб мелі апору ў такіх людзях, як мой брат Міхал.

**Мартына Лукша**
- 8 клас Пачатковай школы ў Нараўцы








(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Разумны ваяр

Адзін мудры ваяр, кульгавы на дзве нагі, ішоў на вайну. І нехта стаў да яго прыдзіracца, папракаць:

— Куды ж ты выправіўся, небарака? Ці ты здурнеў? Што будзе, калі трэба бегчы, уцякаць ад ворага? Цябе ж адразу заб'юць. Лепш адумайся і вяртайся дамоў...

А мудры ваяр толькі заўсміхнуўся і кажа:

— Паслухай, браток! На вайне нельга думаць пра ўцёкі і гонкі. На вайне трэба стаяць на сваіх пазіцыях і змагацца. Інакш не будзе перамогі.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Адгаданка

**Белы—~~ы~~ + а + рукавіца-~~кав~~іца + Міхась-~~Міха~~ = Б.......**

**Тамаш Васілюк, Філіп Валасюк, 7 кл. ПШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку**

## Польска-беларуская крыжаванка № 49-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеёным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 45-2018:**
Код, лістапад, мядок, бінт, шакалад, том, амяла, таз, фота, кот, як. Кампот, шмат, ложа, кат, гамак, сто, лязо, бал, ідал, баян, тупік.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дам'ян Дмітрук, Матэвуш Сямёнчык** з Орлі, **Аляксандра Іванюк, Марыюш Радзецкі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Януш Чарнецкі** з Нараўкі, **Ніколя Конік** з Шудзялава, **Марта Зубрыцкая, Зося Саковіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Марта Татарчук, Дам'ян Карнілюк, Алівія Сноп** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!



Віктар ШАЛКЕВІЧ

# Апокрыф пра святога Юрыя і гарадоцкую царкву



**Ак размяркоўваў Пан Бог усіх сваіх святых і праведнікаў, і рымскіх, і канстанцінопальскіх, на апякунчую дзейнасць, і прымацоўваў да парафіяў, да касцёлаў ды цэркваў, да прыдарожных каплічак, хатніх малельняў і часовенкаў, то ўсе святыя і праведнікі да аднаго акурат сабраліся, і рамеі візантыйскія, і рымляны італійскія, французы з гішпанамі ды луізітанцамі, жыдочкі з сірыйцамі тай элінамі, немцы з ірландцамі, і нашы, усходнікі, з Літвы і Русі, на чале з Еўфрасінняй з Полацку і малым Гаўрыілкам з Заблудава, паслухмяныя ды пакорлівыя, на час паставіліся, хоць мелася іх толькі колькісь асоб.**



Аднаго Святога Юрыя паміж усімі сабранымі не было відно. Францішак Асізскі быў, Іаан Залатавусты быў, святы Валенты быў, дванаццаць апосталаў прыбыло, нягледзячы на далёкую небяспечную дарогу, Маці Божая была, нейкі малазнаёмы персідскі святы, Ануфры-каралевіч, і той не паленаваўся дайсці, а Юрыя не было.

Зразумела, што Пан Бог, бачачы перад сабою такую дастойную горбу заслужаных і паважаных людзей, разумных ды інтэлігентных, айцоў і дактароў Сусветнага касцёла, не цягнуў з працэдурай, а адразу прыступіў да справы — браў за руку якога-такога Тамаша Аквінскага ці Сымона-Слупніка, або Макарыя Александрыйскага, падводзіў да вялікае мапы, якая на сцяне ў ягоным кабінеце вісела, і ласкава прапаноўваў — а ці не захоча шаноўны Святы ўзяць на сябе шляхетную місію заапекавацца такім альбо іншым храмам ці парафіяй?

Канешне, больш заслужаныя і пацярпелыя ад ворагаў Сусветнай царквы за сваю глыбокую веру і перакананні святыя, жанчыны ў першую чаргу, кшталту Марыі, Кацярыны ці Брыгіды, даставалі трохі лепшыя месцы ў сталіцах ды вялікіх гарадах, дзе і вернікаў было найлічней, і парафіі багацейшыя, і толку болей, а такія крыху слабейшыя святыя, ці сумнеўныя, то накіроўваліся ў якія там Шадроны, Дардоні, Цімкавічы, Шышчыцы, Пацынкі альбо Трычы.

Але ніхто нават не аказаўся словам крыўдлівым да Пана Бога ці не прасіў памяняць горшае на крышку лепшае, бо ведалі — як пачнеш упірацца ці рогі занадта падымаць, патрабуючы для сябе важнейшага і значнейшага, цёплага месца, то добра, калі Пан Бог проста прамаўчыць ці хмыкне ў бараду і пакіне пытанне без адказу, а як, не дай Божа, загневаецца, — то можа на пару лет пасляць на місію: наварочваць пакутнікаў у лімбе ці чысцы, што яшчэ не так аж кепска.

Кепска, калі пашле ў пекла на тыдзень на працоўнае перавыхаванне — смалу вазіць, ці дубовыя дровы або торф тачкамі пад катлы з грэшнікамі, але самае кепскае-найкепсцэйшае — калі цябе выкрасліць уласнаю рукою са спісу святых!

Быў ты ўчора святы, а сёння ты — ужо ніхто, і след па табе ў царкоўным календары прастыў, і аніякі ксёндз ці бацюшка пра цябе падчас службы нават не ўспомніць і за цябе не папросіць!

Так што дысцыпліну святыя трымалі, хвіліна ўсё ішло ў хвіліну, анёлскрыба запісваў у вялікай кнізе, хто куды атрымаў накіраванне, пакутнікі і мучанікі акуратна ў ёй распісваліся кожны насупраць свайго імя і прозвішча, непісьменныя замест подпісу ставілі крыжыкі — і адпраўляліся на месцы. І гадзіны праз дзве кабінет Божы спусцеў.

А святога Юрыя няма і няма. Ужо ў выведку патаемна пасылалі колькі разоў арханёлаў Міхала і Гаўрыіла, і дапытвалі яны па ўсіх кутках зямлі вандроўных і валачашчых людзей — ці не бачылі вы святога Юрыя?

Не, ніхто нідзе і не бачыў, а бывала нават, што ў краях герэтычных і схізматычных пра яго ўпершыню чулі — во яно як!!!

Але ж на канец дня, пад самы вечар, шэраю гадзінаю знайшоўся такі, прытэпаў. Парэпаны ўвесь, абадраны, валасы на галаве — як сухія галіны на хвойцы, у розныя бакі тырчаць, сам прыкульгвае, а на дадатак смярдзіць ад яго так званым „рускім духам”, і добра-такі смярдзіць! Пачаў Пан Бог дапытвацца, што і як, чаму так сталася, дзе быў і што рабіў?

І распавёў яму святы Юры, што знаходзіўся ў чарговай экспедыцыі па ўпакарэнні трохгаловага змея і вызваленні прыгожай паненкі — змея прыдушыў, паненку з халоднай вежы выпусціў, люд навакольны ашчаслівіў, і вяртаўся сабе спакойна канём дахаты, але ж каля мястэчка пад назваю Гарадок, там, дзе рэкі разбягаюцца, адна на Поўнач, да халоднага мора, а другая да цёплага, на Поўдзень, убачылі яго мясцовыя жыхары, а як убачылі, то ўсе як адзін завылі, паваліліся на калені, ухапілі нават каня за цуглі і пачалі ласкі прасіць, а справа ўся была ў тым, што ў іхным ляску пад назваю Барык, з'явіўся знекуль агромністы дзікі вяпрук і пачаў усяму наваколлю жыццё псаваць — то картофлі на полі парые, то ягадніц напалохае, то статак кароў па полі паразганяе!

„Я ім кажу, што я б'юся толькі з драконамі ды цмокамі і вызваляю каралеўскіх і князёўскіх дачок, брыдкавата мне неяк са свіннёй з лесу змагацца, а яны мяне слухаць не хочуць: «А збаўца ты наш, а родны, а залаты, а такі-гэтакі, а Бог нам цябе пасляў, памажы ды памажы!». Ну, што мне было рабіць — загадаў, каб паказалі дарогу ў Барык, і паехаў я, мо з гадзіну шукаў таго вепрука па ляску, потым гадзіну за ім ганяўся, нарэшце выгнаў яго на берастаўіцкі гасцінец, даў дзідаю пару разоў пад сраку і загадаў, каб ён больш тутака не з'яўляўся! Паляцеў той дзік, не аглядаючыся, як стрэпаны, туды, адкуль прыйшоў — у пушчу! А яны, месцічы, як такое ўбачылі, дык сцягнулі мяне з каня і пачалі па хатах сваіх вадзіць і ўсім лепшым, што ў іх было, частаваць — і налівалі мне, і ў талерку накладалі — ледзьве я ад іх пад вечар вырваўся і ўцёк. Так вось і дзень мінуў!”.

Паслухаў Пан Бог, памаўчаў, потым падвёў Юрыя да вялікае мапы, і кажа: «Ну што, малойца, слабаваты ў цябе выбар... Калі б першым ты сёння прыйшоў, то добра б сабе зрабіў, а так то табе засталіся толькі два значныя месцы — Кападокія і Ковентры... Вырашай!».

Пачухаў святы Юры патыліцу і кажа: «Я ж ні турэцкай, ні ангельскай мовы не ведаю, прытым жа гэта такія далёкія мясціны... А каб ты мяне, Пане Божа, дзесьці тут пакінуў, то я табе надта ўдзячны б быў, зноў жа — заўсёды пад рукою, калі якая бяда ці няскладзіца!».

Тут ужо Пан Бог пачухаў патыліцу, узяў павелічальнае шкло, доўга праз яго на мапу ўзіраўся, вышукваў там нешта...

Вышукаў дый кажа: «От табе і на! Скуль прыехаў, туды і вернешся! Там, у Гарадку, у мясцовай царкве, правы алтар застаўся незаняты, то я думаю так сабе, што яны, жыхары, памятаючы пра твой пачын з вепруком, ахвотна цябе да сябе прымуць! Месца можа не найганаровейшае, але прыемнае... Так што пераначуй у мяне ноч, а зранку — з Богам у дарогу!».

І так да гэтае пары святы Юры, прыгожы, у латах ды на кані, жыве і квітнее ў правым алтары гарадоцкай царквы.

І хто ні зойдзе, то ўсім ён падабаецца...

*16.10.2018*



# Новая дарога

У пачатку лістапада была часткова здадзена ў карыстанне абноўленая дарога з Беластока ў Супрасль. Было гэта не толькі абнаўленне старога насцілу, але таксама грунтоўная перабудова яе глыбіннага палатна і на некаторых адрэзках пракладка ад асноў зусім новай дарогі. Перабудавана было звыш сямі кіламетраў дасюлешняй дарогі і пракладзена каля двух з паловай кіламетра зусім новага дарожнага палатна — усяго амаль дзесяць кіламетраў.

З беластоцкай вуліцы Рагініса новы шлях пракладзены з размахам. Гэта па сутнасці экспрэсоўка. Аднак толькі ў межах вобрубу Навадворцаў, у межах Васількаўскай гміны. Дзве асобныя паласы, а кожная з двух паясоў руху, даведзены да расходных дарог: налева ў бок недалёкай традыцыйнай вуліцоўкі Навадворцаў, направа ў бок недалёкіх Каракуляў і наўпрост у бок недалёкіх Агароднічак і далейшай Супраслі.

Перад Агароднічкамі дарога мінае вёску, значна суцішаючы аўтамабільную мітусню на вясковай вуліцы. А далей за Агароднічкамі такая навізна, якой на гэтай дарозе не было, але якая паступова ўводзіцца ў наш дарожны краявід. Гэта эстакада ў межах Ландшафтнага парку Кнышынскай пушчы над рачулкай Пільніцай. Мабыць, глыбока думалі планіроўшчыкі новай дарогі, як перасекчы той ландшафтны парк.

Працы пачаліся пад восень мінулага года. У канцы снежня год таму ўжо былі выліты бетонныя падпоры пад эстакаду. З таго часу не заглядаў я туды; зазірнуў нядаўна, у лістападзе, калі пайшла вестка, што па новай маставой запушчаны рух...

Не хацелася мне ездзіць аўтобусамі па новай эстакадзе, якой даўжыню расцэньваю на амаль паўкіламетра. Аглядаць адтуль ахоўны ландшафт паказалася мне менш цікавым, бо яго ў нашым наваколлі дастаткова, чым глянуць на яго знізу, з-пад гэтай эстакады. І хаця рабочыя дарогі, што асталіся яшчэ пад эстакадай, будуць пасля заканчэння ўсіх там работ знесены — мабыць, каб людзі не сузіралі адтуль зусім новага ландшафту — то я ўлавіў момант зазірнуць адтуль на ўсё гэтае тварэнне чалавечых рук. А той новы ландшафт, які красуецца з-пад эстакады, можна назваць антрапагенным, як і ўсё, да чаго дакрануліся тыя ж чалавечыя рукі, аднак пабачанае адтуль гледзішча можна назваць таксама індустрыгенным краявідам. Менавіта тая эстакада прыкрывае пад сабою тонамі бетону той краявід, да якога яна спрычынілася, хавае зверху, ад Нябёсаў, быццам прыкрывае яго тым легендарным фігавым лістком, прыкрывае ўстаноўлены спрадвечна парадак прыроды.

Ну, дарога яшчэ не завершаная, яшчэ астаецца шмат дапаўненняў касметычнага характару. Бо ж і дарога, парафразуючы Святлану Алексіевіч, мае нешта ў сабе з жанчыны. З жанчыны, якая прыхарошваецца ўсялякімі масачкамі, крэмамі, пудрамі, банцікамі, брошкамі, тушамі, каблучкамі, капялюшыкамі з пёркамі ды ўсялякімі іншымі фінціклюшкамі, каб, так як веснавая кветка, прыцягнуць увагу ўсялякіх трутняў. З дарогай быццам крыху іншая справа, яна прыхарошваецца дарожнымі знакамі, прыхарошваецца ахоўнымі бар'еркамі, прыхарошваецца намаляванымі на асфальце інфармацыйнымі лініямі. Таксама ў гэтым плане важную ролю адыгрываюць і прыдарожныя равы, якія пад пагрозай размыцця вадзяной стыхіяй; цяпер яны кволенькія, як нованароджаныя немаўляты, якія патрабуюць крыху часу, каб абрасці пёркамі-зёлкамі, каб дзёран з іх стаў іх надзейным ахоўнікам.

Дарога, адным словам, мае быць бяспечная для праязджаючых па ёй пасажыраў усялякага транспарту. А то ж, у іншым выпадку, можа здарыцца нейкая турботная нечаканасць, як гэта было ў канцы лютага 1822 года ў Саколцы. Менавіта цераз гэты горад з Варшавы цераз Беласток, а магчыма што раней і праз Супрасль па разгледжаным тут дарозе, праязджалі ў напрамку Пецярбурга два царэвічы: Мікалай і Міхаіл Паўлавічы; першы з іх тры гады пазней стаў расійскім імператарам. І калі іх імперскія сіяцельствы пад'ехалі пад сакольскую паштовую станцыю, прывітала іх артылерыйская рота. Калі забубнілі бубнары, тады запрэжаныя ў царскі экіпаж коні спалохаліся, спалохаліся не толькі барабаннага бою, але і султанаў на ваярскіх галовах, звярнулі крыху ўбок і экіпаж зачапіўся коламі за двухступеньчатыя сходкі. Каляска перавярнулася, коні спыніліся, прысутнае чынавенства кінулася дапамагаць высокім гасцям. Царэвічам нічога дрэннага не сталася, толькі будучы імператар крыху ўдарыўся галавою. Аднак пасля гэтага ніякія экстранныя меры не прымаліся, пасля кароткага перапынку вялікія князі падалі далей у Кузніцу і Гродна. Мясцовыя ўлады ўсчалі расследаванне, аднак яно не выявіла нейкіх хібаў, царская вазакі з букштальскай паштовай станцыі Барталамей Рынкевіч і Марцін Андрушкевіч былі цвярозыя, гэтак жа як і апошнія чыны. Дзеля прадухілення ў будучыні падобных выпадкаў, правіцель Беластоцкай вобласці граф Валовіч загадаў так загарадзіць прыступкі да паштовай станцыі, каб у будучыні немагчыма было наехаць на іх коламі экіпажа.

Можа менавіта і з таго часу ахоўнымі бар'еркамі абводзяцца не толькі пад'езды да паштовых станцый, але і ўсялякія небяспечныя месцы на дарогах. Асабліва гэта патрэбна ў межах ландшафтных паркаў. Ды і па-за іх межамі, бо ж, для прыкладу, новая дарога край Агароднічак пралягае цяпер па загуменні вёскі, якое таксама мае чым прыцягваць грэшную цікавасць вадзіцеляў. Можа і там, у дадатак да ахоўных бар'ераў, прыдаўся б нейкі фігападобны лісток...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Новы вакзал у Бельску-Падляшскім




«У новым 2019 годзе ў Бельску-Падляшскім чакаюцца вялікія змены адносна аўтамабільнага і чыгуначнага вакзала. Менавіта суполка «PKP SA» аб'явіла аўкцыён на будову новага чыгуначнага вакзала ў Бельску. Будуць мадэрнізаваныя аўтастаянкі і цэлая інфраструктура вакол вакзала. Новы вакзал у Бельску будзе шэры ўнутры, а зверху аздоблены каляровай мазаікай. Тэрмін падачы заяў фірм на будову скончыўся 17 мая, а галоўнай справай была цана. Работы мелі пачацца ў III квартале 2018 года (не пачаліся дагэтуль — Ю. Б.) і мелі трываць няпоўны год (48 тыдняў).

Цяперашні вакзал, узведзены ў 1987 годзе, будзе разбураны. На час будовы жыхары будуць карыстацца часовым аб'ектам. Будова новага вакзала будзе прафінансаваная са сродкаў для Усходняй Польшчы. У рамках таго самага праекта перабудаваных будзе дзесяць вакзалаў» — паведамляе партал ibielsk.pl.

Гэтым праектам Бельск-Падляшскі вяртаецца да зыходнага пункту. Памятаю як у 1980-х гадах пасажыры ціснуліся ў цеснай зялёнай будзе, якая месцілася прыблізна там, дзе зараз цяперашні вакзал. Вакзал быў здадзены ў карыстанне на пачатку 1990-х гадоў і на гэты час быў гэта вельмі мадэрны аб'ект. Унутры была вялікая пачакальня з лаўкамі, камера захоўвання багажу, туалет, сталовая, кіёск з газетамі, крама з вопраткай. Ззаду вакзала была прадуктовая крама. У пачакальні былі заўсёды натоўпы пасажыраў, якія ў цяпле чакалі свайго аўтобуса або цягніка. Усё памянялася пасля 2006 года, калі ў цэнтры горада парабілі аўтобусныя прыпынкі ПКС. Таксама варта адзначыць, што ў гэты час значна скараціўся лік насельніцтва вёсак у наваколлі Бельска. Большасць моладзі і людзей у працаздольным узросце выехала з Падляшша, а тыя, хто застаўся, пакуплялі аўтамашыны, на якіх ездзяць у Бельск на работу або за пакупкамі. І такім чынам бельскі вакзал апусцеў.

На пачатку 2005 года размаўляў я з прадаўшчыцай прадуктовай крамы. Яна мне сказала, што закрывае краму, таму што няма кліентаў. Раней на бельскім вакзале закрылася сталовая, а на яе месцы кароткі час працавала крама з бытавой тэхнікай, якая ў канцы таксама закрылася. Пасля закрылася крама з вопраткай і абуткам. Потым прыйшоў канец на кіёск з газетамі. Вакзал у Бельску-Падляшскім быў для мяне адным з сімвалаў 90-х гадоў — тут я з сябрамі чакаў аўтобуса ў напрамку маёй вёскі. Тут бурліла жыццё, завязваліся знаёмствы з людзьмі з навакольных вёсак. Таксама ў 2000-х гадах я карыстаўся аўтавакзалам.

Шкада, што разбураць бельскі аўтавакзал, які стаў непатрэбным. Большасць жыхароў вёсак ездзіць на машынах, а старым людзям цяжка ісці з цэнтра Бельска аж на сам вакзал. Яны аўтобуса чакаюць на прыпынку ў цэнтры горада — пры Міхайлаўскай царкве. Добра было б, каб улады Бельска паставілі там паветку ад дажджу. Сентымент сентыментам, але што зробіш, калі бельскі вакзал ад дзесяці гадоў пустуе.

**«Arriva» канчае дзейнасць**

2019 год гэта таксама змены ў курсаванні аўтобусаў у Бельскім павеце. Суполка «Arriva Bus Transport Polska» канчае дагавор на пасажырскую дзейнасць у Бельскім павеце (а таксама ў паветах Венгажэва, Кентшын, Сендзішаў-Малапольскі, Пруднік і Кендзяжын-Козле). Прычынай гэтаму з'яўляецца рост цэн паліва і страхоўкі аўтобусаў, малая колькасць пасажыраў, канкурэнцыя, нізкія зарплаты шафёрам, а таксама адсутнасць прававых норм. У такіх умовах «Arriva» траціць, а не зарабляе. Я б яшчэ дадаў адно, што таксама ўлады гарадоў, дзе «Arriva» вядзе сваю дзейнасць, маглі б даплачваць да білетаў, але відаць яны гэтым не зацікаўлены. «Arriva» старалася як магла эканоміць на выдатках, але, на жаль, гэта не памагло. Аддзелы ў згаданых гарадах — у тым ліку і ў Бельску — прыносяць вялікія страты, якія паглыбляюцца з году ў год — чытаем у прэс-рэлізе суполкі «Arriva» — таму суполка не можа цэлы час дакладваць да дзейнасці, якая генеруе страты. Перавоз пасажыраў на Бельшчыне суполкай «Arriva» закончыцца 30 чэрвеня 2019 года.

Трэба сказаць, што «Arriva» мае вельмі сучасны транспарт, танныя білеты, добрых шафёраў і вельмі шкада, што канчае сваю дзейнасць у Бельскім павеце. З таго, што ведаю, яе месца зойме транспартная фірма «PKS Białystok». Напэўна ізноў скароцяцца да мінімуму курсы паміж Бельскам і Чаромхай. З Беластока ці нават Бельска зусім няма магчымасці даехаць аўтобусам па суботах ці нядзелях у маю вёску Малінікі, якая распалажана па абодва бакі краёвай дарогі № 66. Таксама з Маліннік у Бельск у суботу няма ніякага аўтобуса. Аб гэтым мог бы падумаць новы перавозчык з Беластока, які пяройме бельскі абшар з 1 ліпеня 2019 года. Таксама прыватны перавозчык «Voyager» мог бы пусціць маршруткі з Бельска ў Чаромху, асабліва па суботах і нядзелях або ў 16 гадзін з панядзелка да пятніцы. Пісаць можна, але, думаю, наўрад ці так станецца...

**Юрка БУЙНЮК**

# 130-ыя ўгодкі з дня нараджэння **Лукі Дзекуця-Малея** ў Брэсце

Непрыкметна на Беласточчыне і ў Польшчы мінулі 130-ыя ўгодкі з дня нараджэння (1 кастрычніка 1888 г.) Лукі Дзекуця-Малея, беларускага нацыянальнага і баптысцкага дзеяча. Праўда, у «ніўскай» рубрыцы «Падзеі і асобы БНР» юбілей быў адзначаны («Ніва» № 40 ад 7.10.2018 г.), але на грамадскім узроўні не — ні беларусамі, ні баптыстамі. Хаця на працягу апошніх 25 гадоў Л. Дзекуць-Малей стаў энцыклапедычнай асобай, але ж далей пра яго лёс не ўсё дакладна вядома. Нават яго блізкім. Жыццё яго было даволі складанае і шмат у ім загадак. Пачынаючы з сям'і — амаль нічога невядома пра яго бацькоў і радню. Нават да нядаўна былі сумненні наконт месца нараджэння — раз быў гэта Слонім, іншы раз — вёска Шастакі. Трэба мець надзею, што некалі знойдзецца метрыка яго нараджэння. Да нядаўна ў сям'і думалася, што ад нараджэння быў ён каталіцкага веравызнання, але знойдзеныя ў Брэсцкім архіве дакументы адназначна паказваюць на ранейшае праваслаўнае веравызнанне.



Беларуская школа ў Крынках, 1918 год.

Думаю, неабыякавы таксама быў удзел Л. Дзекуця-Малея як камісара БНР у акрузе Крынкі-Лунна ў арганізацыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў 1918-1919 гг., у тым ліку ў Крынках. У 1999 г. Сцяпан Пекун з Брэста паказаў мне ўцалелыя цудам здымкі Л. Дзекуця-Малея, на адным з якіх група 19 дзяцей з Л. Дзекуцем-Малеем і двума невядомымі асобамі пасярэдзіне і подпіс пад ім «Крынкі 1918 г.». Дзіўна, але пад публікацыяй гэтага здымка («Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі», Брэст 2011, паміж с. 144 і 145) чамусьці падпісана, што прадстаўлены на ім выхаванцы нейкай нядзельнай школы з 1920-1930-ых гг.

Не мог быць Л. Дзекуць-Малей высланы ў 1943 г. нямецкімі ўладамі ў лагер — як піша Уладзімір Хільмановіч у «Ніве», бо ў 1944 г. актыўна ўдзельнічаў у ІІ Усебеларускім кангрэсе ў Менску, а пасля яго, у пачатку ліпеня, развітаўшыся з вернікамі баптысцкай царквы ў Брэсце з'ехаў у Нямеччыну. Адтуль толькі пасля заканчэння вайны апынуўся ў Ліпянах на г.зв. Вернутых Землях. Выявіўшы і пагартаўшы архіўныя дакументы, аказалася таксама, што ў 1949-1952 гг. яго баптысцкая дзейнасць была моцна звязана з Беластокам, што апошнім часам было апісана мною ў «Ніве». Гэта дае падставы, каб неяк увекавечыць яго памяць у Беластоку, напр. назваць яго імем беластоцкую вуліцу. Такая вуліца існуе з 2003 г. у Гданьску.

Такая прапанова прагучала таксама 25 кастрычніка ў Брэсце. Там у Брэсцкай абласной бібліятэцы імя Максіма Горкага адбыўся міжнародны круглы стол, арганізаваны супольна з Інстытутам гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Прысвечаны ён быў 130-ым угодкам нараджэння Л. Дзекуця-Малея. Вельмі разумна і ўдала вёў яго кандыдат гістарычных навук Андрусь Унучак — загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАНБ. Асаблівымі ўдзельнікамі круглага стала былі члены сям'і героя — яго ўнучка Альжбета Дзекуць-Малей і праўнук Лукаш Дзекуць-Малей. Распавялі яны пра асобу дзеда і прадзеда ў сямейным успамінах. Усё не было так проста. Былі такія часы, калі нават у сям'і не ўсё гаварылася. Альжбета Дзекуць-Малей прывезла з сабой памяткі па дзеду і перадала ў бібліятэку сваю магістарскую працу пра дзейнасць Л. Дзекуця-Малея ў беларускім нацыянальным і баптысцкім руху.

Пра стварэнне энцыклапедычнага артыкула пра Л. Дзекуця-Малея ў пачатку 1990-ых гг. расказаў кандыдат гістарычных навук Уладзімір Ляхоўскі. Пра беларускі фон жыцця і дзейнасці Л. Дзекуця-Малея ў ІІ Рэчы Пас-

працяг ☞

Музей-сядзіба "Пружанскі палацык"

Сардэчна запрашаем на сайт музея-сядзібы «Пружанскі палацык»!

## http://museum.pruzhany.by

У Беларусі толькі апошнім часам стала больш-менш развівацца турыстычная галіна. Праўда, развіццё гэта больш, чым кульгавае, з-за таго, што савецкая ментальнасць цяперашніх беларускіх начальнікаў не спрыяе рэстаўрацыі і адбудове каштоўных старажытных будынкаў, перайменавання вуліц з мэтай вяртання гістарычных назваў. Таму адраджэнне асобных будынкаў, хаця б у якасці мясцовых музеяў, можна толькі вітаць, бо гэта так ці інакш, але спрыяе замацаванню ў свядомасці беларусаў разумення слаўнай гісторыі свайго краю.

Адным з такіх прыкладаў можа быць музей-сядзіба „Пружанскі палацык", сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://museum.pruzhany.by.** Як выцякае з назвы, гэты палацык знаходзіцца ў мястэчку Пружаны, што на Берасцейшчыне, і ёсць, як адзначаецца ў расповедзе пра яго на галоўнай старонцы сайта, адзінай аднаўленай сядзібай стылю мадэрн у Беларусі.

Уласна сайт музея выглядае даволі сціпла. І гэта ўсё з-за таго, што на ім вельмі мала разнастайных аздабленняў, прычым казаць пра нейкую мультымедыйнасць зусім не выпадае. Аднак стваральнікі сайта сцвярджаюць, што на ім можна пазнаёміцца з мінулым сядзібы, даведацца, як стварэўся музей і чым ён жыве, заглянуць у экспазіцыйныя залы і музейныя фонды, азнаёміцца з праграмай выстаў і мерапрыемстваў, атрымаць звесткі аб паслугах музея, а таксама знайсці для сябе шмат патрэбных звестак у галіне музейнай справы і турызму ў рэгіёне.

З-за таго, што электроннае прадстаўніцтва музея не мае сучасных спосабаў прэзентацыі таго, што ён мае, казаць пра нейкія віртуальныя туры па ім залішне. Больш таго, рубрыка „Музей", дзе нібыта мусіць знаходзіцца найбольш значная інфармацыя пра яго, зусім адсутнічае, хаця выйсце на яе пазначана ў пераліку рубрык.

Найбольш карысных звестак пра „Пружанскі палацык" цікаўны карыстальнік знойдзе на старонцы „Сядзіба". Там змешчана інфармацыя пра гісторыю і разважэнне гісторыка-культурнай каштоўнасці. Гэта найбольш змястоўная рубрыка цэлага сайта. „Сядзіба прываблівае сваёй наватарскай непаўторнасцю форм. Галоўны акцэнт тут зроблены на несіметрычнасць. Розныя па памерах аб'ёмы злучаны ў адзіную кампазіцыю, якую ўвенчвае вежа ў цэнтры галоўнага фасада. Тут увасобілася ідэя маляўнічага загараднага дома заможнага ўладальніка, які імітуе рэнесансную сельскую вілу. Разнастайныя дэталі аздаблення надаюць яшчэ большую выразнасць: розныя вокны — ад невялічкіх квадратных да шырачэзных «венецыянскіх», балконы, ганкі. У бáку ад парку месціцца раскошная тэраса, якая нібы непасрэдна звязвае «палацык» з краявідам. Такі зборны адметны від зачароўвае сваёй непаўторнасцю. Вялікая колькасць комінаў на даху нагадвае замкі туманнай Англіі, а вежа — палацы Фларэнцыі. Адразу і немагчыма адказаць, у які час «палацык» больш прыгожы: раніцай ці перад захадам сонца, улетку ці позняй восенню. Заўсёды ён заставаўся і застаецца нязменным у сваёй казачнай загадкавасці", — адзначаецца ў рубрыцы „Сядзіба".

Ну а для тых, хто захоча ў рэальнасці палюбавацца „Пружанскім палацыкам", ёсць рубрыка „Паслугі". Там пазначаны кошты экскурсій па музеі, а таксама маецца магчымасць забраніраваць іх. І тады супрацоўнікі „Пружанскага палацыка" распавядуць пра яго на беларускай, рускай ці польскай мовах на выбар.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

# 100 гадоў з дня выдання 4-й і 5-й Граматы БНР

Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі ў Нямеччыне савецкі ўрад дэнансаваў Берасцейскую мірную дамову і рушыў Чырвоную Армію на захад. З сярэдзіны лістапада 2018 года часці Чырвонай Арміі пачалі паступова займаць тэрыторыю Беларусі ўслед за нямецкімі войскамі, якія яе пакідалі. Але ў Літве і ў Гарадзенскай губерні па ўказанні вышэйшага камандавання Антанты, нямецкія войскі затрымаліся, таму „чырвоныя" адразу сюды не ўвайшлі. Таму на гэтых тэрыторыях адносна вольна дзеілі і фармаванні польскай самаабароны. На савецкай жа тэрыторыі бальшавікі цалкам забаранілі іх дзейнасць. Таму кіраўніцтва Мінскай самаабароны 27 лістапада пастанавіла эвакуяваць свае атрады ў Польшчу. Так, 5 снежня, за некалькі дзён да ўступлення бальшавікоў, з Мінска ў Замбраў (Ломжынская губерня) эшалонам з'ехалі 64 афіцэры і 922 жаўнераў з дзвюма сотнямі коней.

Не паспеў да канца сфармавацца і Камітэт абароны Крэсаў, у які ўвайшлі прадстаўнікі Мінскай і Гарадзенскай зямель і адзін дэлегат ад Вільні. Цікава, што ад Гарадзенскай зямлі адным з дэлегатаў быў князь Яўстах Сапега, патрыёт ВКЛ і будучы міністр замежных спраў Польшчы. Яшчэ адно фармаванне — Літоўска-Беларуская дывізія фармавалася з ахвотнікаў — выхадцаў з Віленскай, Сувалкаўскай, Гарадзенскай і Мінскай губерняў. Гэты працэс, які асабіста курыраваў Пілсудскі, да канца таксама не завяршыўся. Міністэрства беларускіх спраў са свайго боку імкнулася стварыць нацыянальныя ўзброеныя сілы. Яно абапіралася на пагадненне беларускіх дзеячаў з літоўскім урадам, заключанае ў лістападзе 1918 года. З 1 снежня ў літоўскім міністэрстве абароны з'явілася беларуская секцыя.

У абставінах адыходу нямецкіх войскаў і эвакуацыі польскіх фармаванняў Рада народных міністраў БНР у 4-й Грамаце ад 29 лістапада 1918 году заклікала беларускі народ да захавання парадку, які ўстанавіла Рада БНР. Пастанова Рады народных міністраў БНР тычылася ўтварэння ўстаноў мясцовага самакіравання на роўні валасці, павета і места. У ёй гаварылася: „Няхай усе грамадзяне Беларусі гуртуюцца навакол Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і Беларускага Ураду і твораць на ўсёй Беларусі свае валасныя, павятовыя і мястовыя Беларускія Рады".

Была зробленая спроба стварэння палітычнага цэнтра без Рады, на базе земстваў, сацыялістычных партый, прафесійных арганізацый і фармавання на гэтай падставе органаў краявой улады. Але кіраўнікі гэтых арганізацый не змаглі развязаць пытання ўлады. Прадстаўнікі левых арганізацый тым часам схіліліся да супольнай работы з савецкай уладай.

Выпраўляючыся ў спрадвечную сталіцу Вільню, Рада і Урад БНР выдалі 5-ую Грамату. Яна была абвешчана 9 снежня 1918 г. У ёй беларускі народ заклікаўся да выступлення супраць савецкай улады, да абароны БНР, да „ўсеагульнага грамадзянскага шчасця" і стварэння на месцах „беларускіх Саветаў", якія мусяць падпарадкоўвацца Радзе БНР. Але ўмоў для гэтага, на жаль, не было.

7 снежня загадам Мінскага вышэйшага савета ўсе мясцовацці, якія былі вызвалены ад кайзераўскіх нямецкіх войскаў, былі абвешчаны на ваенным становішчы. А 10 снежня 1918 г. Чырвоная Армія заняла Мінск. Мінскі савет абвясціў пра аднаўленне савецкае ўлады.

Германскія войскі пакідалі апошнія гарады на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Да сярэдзіны лютага 1919 г. амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі зноў усталявалася ўлада бальшавікоў.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

палітай распавядаў прафесар Брэсцкага ўніверсітэта Аляксандр Вабішчэвіч, а пра рэлігійнае жыццё Брэста ў міжваенны час — кандыдат гістарычных навук Таццяна Лісоўская.

Пра значэнне перакладу на беларускую мову Біблії з 1931 г., зробленага Л. Дзекуцем-Малеем з дапамогай жонкі Серафімы і Антона Луцкевіча, гаварылі рэктар Мінскай багаслоўскай семінарыі Саюза евангельскіх хрысціян баптыстаў у Рэспубліцы Беларусь Леанід Міховіч, пастар царквы ХВЕ «Ян Прадвеснік», перакладчык Біблії на беларускую мову Антоній Бокун, кандыдат гістарычных навук Юрый Бачышча. Пра памяць Л. Дзекуця-Малея ў асяроддзі берасцейскіх баптыстаў сказаў Аляксандр Барысюк — пастар царквы ЕХБ «Збаўленне». Гэта ў яго прадзеда затрымаўся Л. Дзекуць-Малей пасля прыезду ў 1921 г. у Брэст. Наогул пакаленне цяперашніх баптыстаў успамінала яго такім, якім ён захаваўся ў іхніх сем'ях — гэтага хрысціў, а іншых прызначаў прапаведнікамі як акруговы прэсвітар. Можна сказаць, што здзіўляе мяне тая памяць пра Л. Дзекуця-Малея на Палессі і пашана, з якой да яе ставяцца вернікі. Прапанавалася, каб неяк трывала ўвекавечыць яго памяць у Брэсце — ці то назваць яго імем вуліцу, ці змясціць шыльду на месцы яго пражывання, ці паставіць помнік. Гаспадыня круглага стала — дырэктар Брэсцкай абласной бібліятэкі Алена Стрыжэвіч запрашала паглядзець выстаўку выданняў пра Л. Дзекуця-Малея і архіўныя дакументы.

На канец круглага стала выступіў гурт «Збаўленне», які выканаў песню пра Л. Дзекуця-Малея на словы пастара Аляксандра Барысюка:

Матчыны словы з дзяцінства былога —
Родная мова — размовы пра Бога.
І вельмі часта, праз ворах падзей
Імя гучала — Дзекуць-Малей.
Спадчына Дзекуць-Малея
У сэрцы маім жыве.
Евангельская надзея
Да Бога наш Брэст вядзе.
Горад над Бугам — гісторыя Слова
І перакладу і Слова Жывога,
Якое змяняе і сэрца і лёс
Тых, хто пазнае, што Слова — Хрыстос.

Мне прыйшлося расказаць таксама пра свае адкрыцці, звязаныя з Л. Дзекуць-Малеем, якія прывялі мяне ў горад дзяцінства майго бацькі — у Берасце.

Лена ГЛАГОЎСКАЯ

# Як працвітала Чаромха

Працвітанне Чаромхаўскага чыгуначнага вузла выпала на пасляваенны перыяд, пачынаючы з пяцідзесятых гадоў. На гэты час прафесія чыгуначніка была самай папулярнай. Дзяўчаты з прыпушчанскіх вёсак намагаліся выйсці замуж за чыгуначніка. Калі трапляўся кавалер у чыгуначнай форме, без аглядкі пагаджаліся выйсці за яго замуж. Вядома, у чыгуначнікаў былі бясплатная медыцынская апека і такія ж лякарствы, васьмідзесяціпрацэнтныя ільготныя праезды чыгункай, пры тым чатыры бясплатныя сямейныя білеты па ўсёй краіне ў год, бясплатны санаторый. Усё гэта давала спадзяванні на бестурботную будучыню. Навакольныя вёскі Кузава, Ставішчы, крыху далейшая Чаромха-Сяло ці Вулька-Тэрахоўская лічыліся чыгуначнымі сёламі. У маёй, напрыклад, Кузаве з больш за сто гаспадарак на пальцах адной рукі можна было палічыць сялян іншай прафесіі. Астатнія гэта чыгуначнікі. На чыгунцы працавалі нават па некалькі чалавек з аднаго дома (у нашай сям'і трое: бацька, старэйшая сястра і малодшы брат). З ходам часу стала не хапаць работнікаў. Памочнікаў машыніста і работнікаў майстэрні найбольш патрабавала паравознае дэпо. Запатрабаныя былі працаўнікі рухова-гандлёвай службы: кандуктары, стрэлачнікі, сцэпшчыкі і звычайныя рабочыя. З наваколля хлынулі людзі на працу ў Чаромху. Станцыя, як рабочы пасёлак, разбудоўвалася. Будаваліся і сяляне ў навакольных вёсках. У сямідзясятых гадах чыгуначны цэнтр налічваў больш за паўтары тысячы рабочых. Вядучымі службамі былі паравознае дэпо і рухова-гандлёвая служба. Апрача згаданых былі яшчэ дарожная служба, раён будынкаў, забеспячэнне, чыгуначная амбулаторыя, энергетыка, служба аховы чыгункі (СОК). З начальнікаў станцыі запамяталіся мне Туркевіч, Напюркоўскі, Клімовіч, а ў гандлёвай службе Мудэль і Пашкоўскі. Чаромха, хоць і распалажана ў Беластоцкім ваяводстве, адміністрацыйна падначалена была Рухова-гандлёваму аддзяленню ў Седльцах. Вядома, гэтая ўстанова карысталася лепшымі прывілеямі ў Цэнтральнай дырэкцыі ў Варшаве. Чаромхаўскі вузел прыярытэтным лічыўся таму, што станцыя абслугоўвала два чыгуначныя пагранпераходы — Высока-Літоўск і Свіслач. Чаромха была таксама важным транзітным цэнтрам у міжнародным гандлі паміж ГДР і СССР, а таксама стратэгічным пунктам на маршруце вайсковых эшалонаў. Але аб гэтым у наступных допісах.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# Макаткі на выстаўцы

23 лістапада гэтага года ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета адкрылі багатую выстаўку макатак. Некалі былі яны модныя і амаль паўсюдныя на Беласточчыне. Да нашых дзён захаваліся яны, між іншым, у Нараўчанскай, Нарвяўскай, Гайнаўскай, Бельскай і Міхалоўскай гмінах. Адны з цікавейшых макатак маюць у сябе гаспадыні, якія жывуць у вёсках і прысёлках Нараўшчыны. Таварыства „Ятрышнік” („Storczyk”) і Агратурыстычнае таварыства „Белавежская пушча” пастанавілі частку з іх выбраць — арганізатаркі наведалі 20 сёлаў — і паказаць на выставе. Прывезлі яны ажно 150 самых цікавых твораў рукадзелля. На макатках выявы постацей, звяроў, птушак, кветак і раслін.

На адкрыццё выставы прыйшлі і прыехалі нават з далёкіх вёсак перш-наперш жанчыны. Сабралася шмат людзей. Удзел прынялі Яраслаў Галубоўскі — новы войт Нараўчанскай гміны, Ян Хомчук — сакратар гміны, некаторыя гмінныя радныя і солтысы. Пра макаткі і вопытных нараўчанскіх рукадзельніц-вышывальніц шмат што прыгожа распавялі Галена Рээнт, Кася Бяляўская і Альжбета Кунцэвіч. На заканчэнне мерапрыемства быў пачастунак.

Тэкст і фота Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** праваднік = 12 _ 33 _ 25 _;
**2.** хімічны элемент н-р 53 = 18 _ 19 _ ;
**3.** ільдзіна = 37 _ 39 _ 15 _ 22 _ 23 _;
**4.** птушка, якая адна вясны не робіць = 32 _ 13 _ 31 _ 41 _ 43 _ 21 _ 42 _ 38 _;
**5.** кухонны прыбор з лязом = 4 _ 40 _ 14 _;
**6.** „крэсла” конніка = 9 _ 27 _ 1 _ 26 _ 20 _;
**7.** грашовае выражэнне вартасці тавару = 35 _ 36 _ 10 _ 11 _;
**8.** свякруха = 17 _ 24 _ 28 _ 29 _ 30 _;
**9.** кароўка = 16 _ 5 _ 2 _ 3 _;
**10.** дзікарослая расліна з кіславатым лісцем на смачны суп = 6 _ 7 _ 8 _ 34 _ 44 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | | | | | | | | | |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 |
| | | | | | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 45 нумара**

Восень, гоман, Куба, куча, месца, Рэчыца, Тыбет.

Рашэнне: **Чаго не бачыць вока, аб тым сэрца не смуткуе**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 09.12 — 15.12

**(22.03. — 20.04.)** Наладзіш сувязі з найбліжэйшымі, даруеце сабе старыя памылкі. Не абяцай замнога. 9-10.12. саламяны запал. Добры настрой. З прыемнасцю будзеш ашчаслівіваць іншых. На працы не выскоквай з новымі задумамі. 14-15.12. сам вырашыш, як распусціць свае ветразі. Больш адпачывай.

**(21.04. — 21.05.)** 9.12. пачуеш словы, якіх доўга чакаў. 9-10.12. пераможаш руціну ў пачуццях. Перад табою вельмі інтэнсіўны час. Шмат цяжкай працы, але яшчэ больш задавальнення. Да 12.12. час спрыяе інтарэсам. На працы моцна ўхопіш руль і не выпусціш да канца года. Шанцы на ўдалае завяршэнне года. Паляпшэнне адносін з раднёй і з сябрамі. Незалежна ад надвор'я высоўвай нос з дому!

**(22.05. — 22.06.)** Справы ідуць у цалкам добрым напрамку. Настрой дапіша, незалежна ад лёгкіх завіраванняў. Фантазія. Без праблем папхнеш наперад важныя справы. Будзеш у цэнтры здарэнняў. Наладжвай знаёмствы. Расквітнее кампанейскае жыццё з 13.12. Надстаўляй вуха на добрую работу. Не еж цяжкіх страў.

**(22.06. — 23.07.)** 9-10.12. не стаў усяго на адну карту. Будзе шмат хваляванняў. Справішся з найцяжэйшымі абавязкамі. Але ці мусіш іх браць на сябе? Не дай сабой маніпуляваць. Дачакаешся ўзаемнасці за сваю дапамогу. Хтосьці аддзячыць табе і добрым словам, важным. Можаш пашукаць дадатковага заробку, асабліва з-за тваіх мануальных умеласцей. Знайдзі час на адпачынак, ляжы з прыўзнятымі нагамі.

**(24.07. — 23.08.)** Трапна ацэніш сітуацыю, усё абдумаеш, знойдзеш саюзнікаў для сваіх дзеянняў. Зоркі пільнуюць тваіх інтарэсаў, але стрэлы Амура цябе будуць пакуль абмінаць. Не мусіш прыпадабацца сваякам і сябрам. Добра вырашыш прафесійныя праблемы. Можаш падпрацаваць, асабліва Леў з першай дэкады. Замест кавы — варушыся.

**(24.08. — 23.09.)** Хопіць табе сяброў, грошай і вельмі добрых задум. Але пільнуйся, каб не пераацаніць сваіх магчымасцей. Будзеш адважны і энергічны. Паявяцца вельмі выгадныя прапановы. Асабліва 9.12. не выключай мабільніка, чытай э-пошту — будуць цікавыя весткі з замежжа. 9-10.12. можаш сустрэць кагосьці, з кім спалучаць цябе не толькі пачуцці, але і сяброўства. Але 10-12.12. магчымы аварыя аўто ці спазненне цягніка. Вялікія здольнасці рэгенерацыі.

**(24.09. — 23.10.)** Дасі рады ўсім абавязкам і ніякі шанц не ўцячэ табе з-пад носа. Але (аж да 18.12.) пазбягай пакупак, бо дасі сябе намовіць на абы-што. Секстылі Сонца і Юпітара гарантуюць табе поспех, але неабавязкова хуткі. Шмат навучышся. Магчымая сустрэча праз гады. Хадзі на шпацыр з кійкамі.

**(24.10. — 22.11.)** Фартуна асабліва шчодрая для цябе. Зоркі падлагодзяць канфлікты; кожны будзе табе «есці з рукі». Спакой, упэўненасць. Досыць добрае здароўе. Працаваць будзеш памалу, але сістэматычна, добрыя адносіны з калегамі і кіраўніцтвам. Хаця 10-12.12. можаш адчуць, што не маеш ніадкуль дапамогі. З 14.12. удала аформіш юрыдычныя справы; горача ў спальні.

**(23.11. — 22.12.)** 9.12. можаш заззяць на прафесійнай ніве; не выкінь чагосьці важнага, што табе спатрэбіцца. Ідэальны час на экзамены, павышэнне кваліфікацыі. Не адмаўляйся ад запрашэнняў на імпрэзы. Зацікавішся новымі галінамі навукі. Цяжка будзе табе выбрацца з хаты. Сонца і Юпітар на тваёй тэрыторыі паставяць цябе за ўзор. На працы пакажашся ў справах, дзе патрэбныя хуткія, інтуітыўныя рашэнні, крэатыўнасць і баявітасць — не будзе табе роўных! Пі многа вады, малымі глыткамі.

**(23.12. — 20.01.)** Не ўдасца зрабіць табе нават паловы таго, што плануеш. Але не перайтмайся. Адпачывай. Няўпэўненасць. Уражлівасць. Інтуіцыя. Не прадбачваюцца змены ў пачуццёвых справах (увесь снежань). Прытармозіш у гонцы пацукоў. Шпацыруй. З 14.12. дасі рады вырашыць праблемы ў фінансах, рушышся з важнымі прыёмамі.

**(21.01. — 19.02.)** 9.12. абароніш сваю рацыю. Дагаворышся з партнёрамі. Пагодзішся з сям'ёй. Пераканаешся, як шмат можа зрабіць шчырая размова. 9-10.12. не бяры ніякіх пазык! 10-12.12. можаш апынуцца ў агні крытыкі; не забудзь важных дакументаў. У фірме дасягнеш усяго чаго хочаш. Можаш пазбыцца кепскіх звычак.

**(20.02. — 21.03.)** Паставіш на сваім. Але не нарабі сабе ворагаў. Прыліў энергіі і ахвота да дзеянняў. Спрыяльныя акалічнасці гарантуе табе кан'юнкцыя Нептуна. Ад рашэнняў, якія цяпер здзейсніш, не будзе адвароту. 9-10.12. могуць нечакана ўскладніцца простыя справы. На працы многа задавальнення, калі будзеш рабіць важнае, з людзьмі або ў глыбінцы. З 14.12. можаш узяцца нават за справы, «якіх ніхто не зварухне» (да 20.12.).

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Сям'ю беларусаў Лабасюкоў выратавала карова

Пагутарыць у Дзятлаве з Яўгенам Лабасюком не ўдалося. Ён хварэе пасля аперацыі, таму з ложка нават не падымаецца. Адведаць яго прыехала дачка з Калінінграда Ірына. Дзякуючы Ірыне я змог даведацца пра лёс сям'і Лабасюкоў з вёскі Лявіцкія Лапскага раёна Беластоцкага ваяводства, якія ў канцы лістапада 1944 года пакінулі бацькоўскія мясціны.

З родным кутком дзед і бабуля Ірыны Сцяпан і Кацярына Лабасюкі развітвацца не хацелі. Тым больш перажылі вайну, жыць і радавацца, як казалі ў іх вёсцы. Але спакойна жыць не давалі банды. Сцяпан Лабасюк у вёсцы быў даволі адукаваным чалавекам. Ён вазіў сакрэтную пошту. Таму бандыты ведалі такіх людзей і адразу іх наведвалі. Прыйшлі да Сцяпана і Кацярыны ў хату, дзе жылі не толькі яны, а цешча Сцяпана, Аляксандра Пятроўская і чацвёра дзяцей — тры сыны і дачка. Выгналі іх на двор, паставілі пад стваламі вінтовак і аўтаматаў каля плота, і пачалі рабаваць хату.

У сям' і Лабасюкоў было некалькі кароў, адна рагуля была вельмі непаслухмяная: выбежыць з хлява і пайшла куды вочы глядзяць. Таму гаспадары павесілі ёй на шыю званочак, які звонка звінеў і гаспадары па ім вызначалі, дзе карова ходзіць і пасецца. Пакуль рабавалі бандыты хату, а беларусы чакалі, калі іх ля плота расстраляюць, здалёк пачуўся звон званочка. Бандыты спалохаліся, бо думалі, што на конях едуць вайскоўцы, хуценька сабраліся і ўцяклі. А праз некалькі хвілін на панадворак завітала іх непаслухмяная карова са званочкам на шыі. Так іх карова і выратавала.

Пасля гэтага выпадку заставацца ў Лявіцкіх не было сэнсу. І Сцяпан Віктаравіч Лабасюк атрымаў эвакуацыйны ліст за подпісамі раённага ўпаўнаважанага па эвакуацыі па Лапскім раёне Рэдзіна і раённага прадстаўніка па Лапскім раёне Ольчалса. Разам са Сцяпанам Лабасюком, 1904 года нараджэння, у Дзятлаўскі раён эвакуіраваліся яго цешча Аляксандра Станіславаўна Пятроўская, 1860 г.н., жонка Кацярына Іванаўна Лабасюк, 1909 г.н., сыны — Яўген Лабасюк, 1932 г.н., Міхаіл Лабасюк, 1933 г.н., Яўстафій Лабасюк, 1936 г.н., дачка Ірына Лабасюк, 1939 г.н.

З сабой сям'я Лабасюкоў везла 1 каня, 2 каровы, 8 свіней, 1 плуг, 1 воз, 1 барану, 1 саламарэзку, 1 сеялку, 1 акучнік, 1 цярноўнік. Харчовых прадуктаў Лабасюкі везлі 15 цэнтнераў, з іх — збожжа 10 цэнтнераў, хатніх рэчаў — 6 цэнтнераў.

Цешча Сцяпана Лабасюка, Аляксандра Пятроўская, мела і свой асабісты эвакуацыйны ліст. Родам яна была з вёскі Сабалева Дойлідскай гміны. І таксама эвакуіравалася ў Дзятлаўскі раён. Але ў Лявіцкіх засталіся тры сястры Кацярыны Лабасюк — Марыя, Зося і Вольга, а таксама брат Пятро. Яшчэ адна сястра Феафіла выйшла замуж за рускага вайскоўца і яны паехалі ажно ў горад Угліч Яраслаўскай вобласці. З сабой туды завезлі шмат яды. Пакуль яда ратавала іх — жыць можна было, а калі скончыліся прадукты, яны хутка вярнуліся на Беларусь да Лабасюкоў на Дзятлаўшчыну.

Пакінуць Лявіцкіх Сцяпана Лабасюка заставіў яшчэ і той факт, што яго брат быў дэпутатам. Аднойчы да брата прыйшлі бандыты і забралі яго з сабой. Больш родны брат дамоў не вярнуўся.

Унучка Сцяпана Лабасюка, Ірына, расказала, што дзед, калі прыехаў з сям'ёй на Дзятлаўшчыну, стаў працаваць старшынёй калгаса „8 сакавіка". А калі калгас аб'яднаўся, быў простым калгаснікам. Акрамя таго, што было пазначана ў эміграцыйным лісце, Сцяпан Лабасюк прывёз з Беласточчыны два мяхі солі. А солі ў вёсках у пасляваенны час не хапала. Яна і ратавала пэўны час сям'ю, таму што за соль вельмі шмат чаго можна было зрабіць, пра нешта дамовіцца, вырашыць шэраг пытанняў. І соль сям'ю карміла.



Мікалай Несцярэўскі з Бацютаў і Яўген Лабасюк з Лявіцкіх



Беларусы з Беласточчыны — Пётр Калодка і Яўген Лабасюк



„25" ноября 1944 г.

Эвакуационный лист

Дан гражданину Лабасюку Степану Викторовичу 190_ г. рождения, жителю села Левицкие ... Лапского р-на Белостокской воеводства в том, что он по Решению Главного Уполномоченного Правительства Белорусской ССР по эвакуации на территорию Белоруссии. Эвакуируется в ... р-н Барановичскую обл. БССР.

С ним вместе эвакуируются также:

Пачатак эвакуацыйнага ліста Сцяпана Лабасюка



PAŃSTWOWY BANK ROLNY

Warszawa, ul. Niecała № 5

WEZWANIE PŁATNICZE

do dłużnika b. rosyjskiego państwowego Ziemskiego

BANKU WŁOŚCIAŃSKIEGO

Pożyczka № 16160

Państwowy Bank Rolny zawiadamia, że:

Банкаўскі дакумент 1926 года

Калі прыехалі Лабасюкі на Дзятлаўшчыну, ім прапанавалі вялікі цагляны дом у вёсцы Дварэц, а потым яны пераехалі ў Дзятлава. Захаваўся „Акт описи и оценки № 746" ад 31 кастрычніка 1947 года, дзе паведамляецца, што на аснове пастановы Савета Міністраў БССР № 1553 ад 17 жніўня 1946 года аб кампенсацыі беларускаму насельніцтву кошту маёмасці, якая засталася на тэрыторыі Польшчы, аб выкарыстанні маёмасці, якую пакінулі польскія грамадзяне, што выехалі ў Польшчу, зроблены вопіс і ацэнка маёмасці, якая належала грамадзяніну Урбановічу Пятру Адамавічу мястэчка Дзятлава. Спадар Урбановіч пакінуў у Дзятлаве свіран памерам 5 х 4 х 2 м, які купіў за 210 рублёў Сцяпан Лабасюк. У Дзятлаве на месцы гэтага свірана Лабасюкі пабудавалі сабе дом і жылі тут недалёка ад раённага рынку. На рынак прыязджалі людзі з усіх ваколіц, сярод іх было шмат рэпатрыянтаў-беларусаў з Беласточчыны. Яны спыняліся ў хаце Лабасюкоў. Там недалёка прывязвалі коней, ставілі веласіпеды, клалі рэчы, каб не цягаць па рынку. Усе адзін аднаго ведалі і дапамагалі. „Кожную раніцу, асабліва ў базарны дзень, мая бабуля пякла драждҗавыя бліны і пасыпала іх цукрам, а таксама варыла кампот. Калі на рынак прыязджалі перасяленцы, то яны спыняліся ў дзедавай і бабулінай хаце, бабуля іх заўсёды частавала гэтымі блінамі. І нас яна карміла. Мы так іх любілі! Цяпер не ведаю, як іх спячы. Але добра памятаю, што былі бліны дужа смачныя", — успомніла Ірына — унучка Лабасюкоў.

Тое, што прывезлі беларусы з сабой на Дзятлаўшчыну, Сцяпан Лабасюк аддаў у калгас. З гадамі падраслі дзеці, жаніліся, выйшла замуж дачка. У кожнага ў Беларусі па-рознаму склаўся іх лёс. Сёння даўно няма Сцяпана і Кацярыны Лабасюкоў, памерлі іх сыны Міхаіл і Яўстафій. У Дзятлаве жыве толькі Яўген Лабасюк, якому ўжо 86 гадоў, а таксама дачка Сцяпана Ірына Лабасюк, якая жыве ў Расіі...

У Яўгена Лабасюка захавалася некалькі фотаздымкаў і дакументаў, якія сёння публікуюцца ўпершыню.

Сяргей ЧЫГРЫН

ISSN 0546-1960 49